РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №21 (130), 25 МАЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



TV-ПРАГРАМА:

БТ, «Астанкіна», канал «Расія», Санкт-Пецярбург.

Стар.7.

«Я ВЕЛЬМІ паважаю газету «Культура», — сказаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Клод Жаліф. —Тыя намаганні па адраджэнні беларускай культуры, якія вы робіце, заслугоўваюць увагі і падтрымкі. Слухаючы сёння вашых паэтаў, якія чыталі вершы французскіх паэтаў на беларускай мове і беларускіх паэтаў на французскай мове, мы ў поўнай меры адчулі, якая прыгожая ваша мова. Нягледзячы на тое, што яна пакуль не вельмі папулярная ў свеце, яна гучыць, калі правільна на ёй размаўляць, вельмі гарманічна. Ваша газета не баіцца дакранацца да цяжкіх тэмаў. Я, рэгулярна чытаючы «Культуру», паколькі яе выпісваю, прыйшоў да высновы, што вы атакуеце, можна сказаць, самыя цяжкія тэмы, хаця, магчыма, можна было б пайсці па шляху найменшага супраціўлення, выпрабоўваць, калі так можна сказаць, больш рэкламныя тэмы. І яшчэ адна з прычын маёй павагі да «Культуры»: яна даволі часта адлюстроўвае праблемы развіцця разнастайных заходніх культур і, у прыватнасці, французскай культуры, выбіраючы для публікацый аўтараў, якія зусім не лёгкія для прачытання і разумення. Напрыклад, вы надрукавалі артыкул пра Жака Дэрыда — гэты аўтар нялёгка ўспрымаецца і самімі французамі. Дзякуючы сённяшняй вечарыне, мы дакрануліся да тэмы культурных адносінаў паміж Францыяй і Беларуссю».

Гэтыя словы Клода Жаліфа сталіся своеасаблівым лейтматывам вечарыны, якую праводзіла наша газета і якая называлася «Французская культура на старонках «Культуры». Газета, якая імкнецца даказаць, што беларускай мове падуладныя найтанчэйшыя адценні сучаснай філасофскай і культуралагічнай думкі, пазнаёміла супрацоўнікаў французскага пасольства з беларускімі паэтамі Анатолем Вярцінскім, Сяргеем Законнікавым, Алесем Асташонкам, якія пішуць пра Францыю, а таксама наладзіла выставу сваіх публікацый — перакладаў з французскай мовы найлепшых прадстаўнікоў гэтай цудоўнай культуры. Алесь Асташонак і наш рэдактар аддзела Юрась Барысевіч аказаліся цудоўнымі перакладчыкамі, а вершы, якія прачыталі вучні 79-й школы — перакладу не патрабавалі. Хораша гучалі на французскай мове творы Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, якія ў сваім перакладзе прачытаў Вікенцій Домніч.

На вечарыне прысутнічалі аташэ па культуры Рэспублікі Францыі Аляксандр Талстой, наш французскі аўтар, акадэмік Фернан Бакур, старшыня Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі Арсен Ваніцкі, галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва» Аляксей Дудараў і актыў нашай рэдакцыі.











Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

# ДЗЯКУЙ РОДНАМУ ЎРАДУ!

19 траўня ў межах семінара рэдактараў раённых і гарадскіх газет Беларусі, які праходзіў у Інфармацыйна-культурным цэнтры Савета Міністраў РБ, адбыўся круглы стол на тэму «Нацыянальная культура і сродкі масавай інфармацыі». Перад журналістамі, у прыватнасці, выступіў прэзідэнт Канфедэрацыі творчых саюзаў, народны артыст СССР Мікалай Яроменка. Паводле яго ных словаў, творчыя саюзы падчас «перабудовы» і суверэнізацыі Беларусі прыйшлі ў заняпад, прыціснутыя шматлікімі падаткамі, а вось таварыш Сталін нават падчас вайны іхнюю дзейнасць падаткамі не абцяжарваў. Напрыклад, у Саюза мастакоў Беларусі падаткамі ў I квартале гэтага года спагналі 0,5 млрд. рублёў. Асабліва ж цяпер цяжка новаўтвораным саюзам — дызайнераў, фотамастакоў, музычных дзеячаў ды інш., бо яны не паспелі назапасіць сабе за савецкім часам вытворчую базу. Мікалай Яроменка падкрэсліў, што 10 творчых саюзаў (апрача пісьменніцкага), Беларускі фонд культуры і Міжнародны цэнтр тэатра аб'ядналіся ў канфедэрацыю дзеля таго, каб бараніць сацыяльныя правы творчых асобаў, а не тыя ці іншыя палітычныя погляды. І вельмі важна было б аб'яднаць нейкім чынам гэтыя намаганні з аналагічнай дзейнасцю Міністэрства культуры і друку, захоўваючы, аднак, аўтаномію канфедэрацыі. Не так даўно адбылася канферэнцыя, дзе канфедэрацыя ў звароце да ўрада РБ запатрабавала, у прыватнасці, распрацаваць Закон аб творчых саюзах (пад гэтым зваротам паставіў подпіс і кіраўнік Саюза пісьменнікаў В.Зуёнак). Далей прамоўца падзякаваў цяперашняму ўраду і асабіста таварышу Кебічу за мужнае ратаванне нашай культуры ад катаклізмаў рынкавай стыхіі, а таксама за матэрыяльную і маральную падтрымку канфедэрацыі.

Затым слова ўзяў галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Генрых Далідовіч, які ўзначальвае раду галоўных рэдактараў літаратурна-мастацкіх выданняў, створаную пры Міністэрстве культуры і друку. Паводле ягонага выступу, беларускія літаратары ва ўсе часы рабілі для нацыянальнага адраджэння больш чым трэба. Так, на апошнім з'ездзе Саюз пісьменнікаў прыняў зварот аб нязгодзе з далучэннем Беларусі да адзінай рублёвай зоны. Між тым, на думку прамоўцы, літаратурна-мастацкім выданням асабліва няма на што наракаць: «Мы адчуваем вялікую падтрымку з боку міністэрства і нашага ўрада». Кніжкі таксама выходзяць больш-менш рэгулярна. Спадар Далідовіч выказаў упэўненасць, што беларуская літаратура ствараецца на высокапрафесійным узроўні, а таму жыве і будзе жыць.

Перад журналістамі выступіў таксама начальнік Упраўлення сродкаў масавай інфармацыі Міністэрства культуры і друку Уладзімір Ламека. Асаблівую ўвагу ён надаў мове раённых, гарадскіх і абласных газет: «Няма сэнсу гаварыць пра культуру, не згадваючы праблемаў мовы». Спадар Ламека заклікаў раённыя ды іншыя перыёдыкі пераходзіць цалкам з двухмоўя на беларускую, але засцярог ад ужывання «тарашкевіцы», бо яна фаналагічна далёкая ад жывой беларускай гаворкі.

Выступоўцы адказалі таксама на некаторыя пытанні ўдзельнікаў семінара.

**Юрась БАБАРЫН.**

# ВЕЛІКОДНАЯ ІМПРЭЗА

«Прыгажосць ёсць Бог; творчасць ёсць Бог...» Гэтыя словы Мікалая Рэрыха сталіся эпіграфам «Велікоднай сустрэчы» ў Творчай гасцёўні Інстытута праблем культуры. У госці да ягоных навукоўцаў і навучэнцаў 5 траўня прыйшлі майстры музычных і пластычных відаў мастацтва: Мінскі камерны хор «Kantus», скрыпач Вячаслаў Зяленін, жывапісец Леанід Дударэнка і мастак-кераміст Вольга Чарняк. Азнаёміцца з творамі апошніх можна было яшчэ да пачатку канцэрта. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Леанід Дударэнка выставіў «сюіту» беларускіх пейзажаў, а таксама некалькі палотнаў у іншых жанрах. Ягоныя карціны мне падаліся не столькі прыгожымі, колькі ўтульнымі (фарбы цёплыя, формы мяккія). Напісаныя алеем, яны вельмі нагадваюць акварэль: аказваецца, Дударэнка заўсёды стварае свае палотны без папярэдніх эцюдаў, непасрэдна з натуры, як добрыя старыя імпрэсіяністы. У звароце да гледачоў ён падкрэсліў, што адабраў для гэтай выставы творы «камернага гучання», таксама падзякаваў маладому інстытуту за тое, што не забывае старых мастакоў.

Побач месцілася выстава керамікі Вольгі Чарняк: дэкаратыўныя вазы, пацеркі і рэчы невытлумачальнага прызначэння (напэўна, ужытковае мастацтва таксама бывае нефігуратыўным). Паводле мастацтвазнаўцы Эмы Грамыка, у гэтых творах адбываецца адкрыццё найстаражытнейшых эстэтычных формаў — якімі яны, магчыма, былі ў першыя Дні Стварэння свету. Апрацаваная высокім апяканнем, гліна ператварылася ў не менш каштоўны матэрыял, чым золата ці дыяменты.

Нарэшце, Іна Пыж, якая бліскуча, трэба адзначыць, вяла імпрэзу, запрасіла на імправізаваную сцэну прафесара Беларускай акадэміі музыкі Вячаслава Зяленіна: «Калі канчаецца слова — пачынаецца музыка». Пад акампанемент Ірыны Неўскай маэстра выканаў некалькі твораў Багатырова для скрыпкі і фартэпіяна. Гралі доўга, прыгожа, гіпнатызуючы публіку эмацыянальнымі жэстамі, пацвярджаючы выслоўе: «Камерная музыка — прытулак тонкіх пачуццяў».

Але найбольшае, напэўна, захапленне ўдзельнікаў сустрэчы выклікаў выступ камернага хору «Kantus», які існуе пры Беларускім таварыстве інвалідаў па зроку. Хору нядаўна споўнілася толькі пяць гадоў, але за гэты час ён пабываў на гастролях у многіх еўрапейскіх краінах. Прафесійных калектываў такога кшталту ў свеце яшчэ два (у Балгарыі і Літве). Хор выканаў канцэрт Бартнянскага, урыўкі з Літургіі св.Іаана Залатавуста Шчаглова-Куліковіча ды іншыя творы рэлігійнай тэматыкі. Дырыжыравала Людміла Панчанка (дарэчы, былая вучаніца Зяленіна). Спявалі сакавіта, аднолькава моцна ва ўсіх рэгістрах — ад баса да сапрана. Многія слухачы (дакладней, слухачкі) не маглі стрымаць слёз. На жаль, у Творчай гасцёўні даволі нізкая столь, і таму найпрыгажэйшае спяванне — прынамсі, для мяне — здавалася надта гучным: нібы патанаеш у акіяне голасу і грудзям не хапае паветра... І тым не менш, як сказала потым Ліліяна Анцуг (дырэктар Беларускага фонду дапамогі развіццю культуры, які стаў спонсарам сустрэчы): «Мы атрымалі асалоду, якая надоўга запомніцца». Фонд стала супрацоўнічае і з інстытутам, і з хорам «Kantus»: на вечарыне дэманстраваўся відэафільм, які фонд зняў пра гэты незвычайны музычны калектыў.

З невялічкай прамовай да ўдзельнікаў і гасцей імпрэзы звярнуўся рэктар Інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў. Інстытут існуе толькі два з паловай гады, але за гэты час ужо заваяваў пэўны аўтарытэт у колах прафесійных і самадзейных носьбітаў крыжа культуры. У Творчай гасцёўні ўжо адбыліся сустрэчы са Стэфаніяй Станютай, Ігарам Алоўнікавым, Сяргеем Законнікавым, музыкамі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі ды іншымі цікавымі людзьмі. І, напэўна, нас чакае яшчэ шмат прыемных сустрэч, бо на развітанне хор «Kantus» сардэчна праспяваў усім арганізатарам і гасцям імпрэзы «Многая лета!»

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

# НА КАРЫСЦЬ НАРОДАЎ-СУСЕДЗЯЎ

Да канца траўня прадоўжыцца выстава сучаснай польскай кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

Больш за тысячу выданняў гістарычнай, дзіцячай, мастацкай, папулярнай літаратуры, што выйшлі ў свет у 1992-1994 гадах, прадстаўлена ў экспазіцыі. Прываблівацюь маляўнічыя, на высокім паліграфічным узроўні выдадзеныя, маючыя выдатны дызайн альбомы, турыстычныя карты, календары, афішы, выдавецкія планы, іншы інфармацыйны матэрыял.

Наладзілі выставу фонд «Дапамога палякам на Усходзе», амбасада Рэспублікі Польшча на Беларусі, Нацыянальная бібліятэка. У дзень адкрыцця экспазіцыі сюды завіталі прадстаўнікі Міністэрства культуры і друку Беларусі, творчай інтэлігенцыі, народныя дэпутаты, журналісты, прысутнічалі госці з Польшчы.

Рэформы, якія набралі абарот у Польшчы ў 1990 годзе, не маглі не адбіцца і на кніжным рынку нашых суседзяў. Там узніклі тысячы прыватных выдавецкіх і кніжных прадпрыемстваў. У дзяржаўнай вытворчасці з'явіўся моцны канкурэнт, у ёй адбыліся вялікія структурныя змены.

На сённяшні дзень на польскім кніжным рынку дзейнічае 2.500 выдавецтваў. Штогод з'яўляецца каля дваццаці тысяч новых назваў, якія паступаюць у тры тысячы кнігарняў краіны.

Выставу сучаснай польскай кнігі ў Мінску можна разглядаць, адзначыла на яе адкрыцці надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча на Беларусі Эльжбета Смулэк, як прапанову наладжвання кантактаў паміж выдавецтвамі абедзвюх краінаў. Добрае супрацоўніцтва павінна весці не толькі да абмену кнігамі на мове арыгінала, але і да перакладу і выдання польскай літаратуры па-беларуску і беларускай — па-польску.

— Гэтая акцыя — толькі адна з шэрагу запланаваных польскім бокам, — падкрэсліў першы сакратар амбасады Польшчы на Беларусі Марэк Галкоўскі. — Мы ведаем, што нашых кніг не хапае ў вашай краіне. Таму мы вырашылі, так бы мовіць, запоўніць гэты вакуум. Шукаем спонсараў, якія б дапамаглі ажыццявіць нашы задумы. На нашу прапанову адгукнуўся фонд «Дапамога палякам на Усходзе», ён закупіў на сем тысяч долараў літаратуры і вырашыў падарыць польскія выданні апошняга часу беларусам. Пасля закрыцця выставы гэтыя кнігі папоўняць фонд Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Чаму менавіта сюды паступіць літаратура? Таму што самую вялікую бібліятэку наведваюць прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцяў, што жывуць на Беларусі, у тым ліку і палякі. Так што карысць ад знаёмства з сучаснай польскай кнігай будзе для ўсіх. У далейшым мяркуем фармаваць бібліятэку Саюза палякаў на Беларусі, садзейнічаць папаўненню нашымі выданнямі іншых фондаў.

Вялікую дапамогу ў наладжванні выставы аказалі кіраўнік фонду Анджэй Краўчык, старшыня рады фонду «Дапамога палякам на Усходзе» Ян Маліцкі, яго памочніца Інга Катаньска, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы прафесар Адам Манікоўскі, старшыня Польскай кніжнай палаты Гжэгаш Багута.

Добрасуседскай акцыяй назваў арганізацыю выставы і далейшую перадачу кніг беларускаму боку міністр культуры і друку Беларусі Анатоль Бутэвіч.

— Мы таксама шмат робім і нямала ўжо зрабілі, — расказаў ён карэспандэнту «Культуры», — дзеля ўсталявання культурных стасункаў з суседзямі і падтрымкі беларусаў, якія жывуць у гэтых і іншых краінах. У пазамінулым і мінулым гадах перадалі нашу літаратуру ў Беласток, музей у Гайнаўцы, Варшаўскі універсітэт на кафедру беларускай філалогіі.

Апроч таго, былое Міністэрства інфармацыі сфармавала бібліятэчку беларускай літаратуры ў Кішынёве. Не так даўно мы перадалі амаль тысячу тамоў у Шальчынінкай, дзе ствараецца беларуская бібліятэка, рыхтуемся да адкрыцця такой самай у Вільнюсе. Сёлета паступіла наша літаратура ў вільнюскую беларускую школу-ліцэй. У гэтым месяцы беларусы Латвіі атрымалі аўдыёапаратуру, відэакасеты і іншую неабходную тэхніку. Такія кантакты — нармальная і добрая з'ява.

Культура не можа быць абмежаваная межамі і пагранічнымі слупамі. Калі адбываюцца нармальныя міждзяржаўныя працэсы, то тады багацці культуры служаць не аднаму народу, а народам. Трэба зазначыць, што сувязі ў гэтым накірунку паміж Беларуссю і Польшчаю пашыраюцца і паглыбляюцца. Сёлета Міністэрства культуры і друку нашай краіны і Міністэрства культуры Польшчы распрацуюць дагавор аб супрацоўніцтве на бліжэйшыя два гады. Так і павінна быць паміж добрымі суседзямі.

**Наталля КІРПІЧЭНКАВА.**

# МУЗЫКА НА БЕЛАРУСКІЯ СЛОВЫ

12 траўня ў Доме літаратара адбыўся аўтарскі канцэрт кампазітара Алега Чыркуна"Мой родны край". Пачаўся ён з шэрагу песень на патрыятычную тэматыку, якія выканаў узорны дзіцячы хор «Дружба» СШ N1. Прагучалі песні на вершы Н.Загорскай, С.Панізніка, В.Жуковіча ды іншых беларускіх паэтаў. Найпрыгажэйшай з іх асабіста мне падаўся вальс «Родны горад» на словы В.Іпатавай. Запомнілася таксама песня «Дзеці Еўропы» на словы Л.Дайнэкі, якую нават можна было б запрапанаваць на конкурс дзяржаўных гімнаў.

Вельмі цікава глядзеліся ўрыўкі з оперы «Хфірменная казка» (лібрэта Я.Іўковіча, пастаноўка С.Палякоўскай): дзяўчынкі спявалі і танцавалі ў ролях лiскі, вароны, коткі, вавёрак ды іншых насельнікаў беларускага лесу. Шкада толькі, што ўвесь канцэрт адбываўся пад фартэпіяна: у іншай аранжыроўцы і харэаграфіі атрымаўся б выдатны мюзікл або рок-опера. Тое ж самае можна сказаць пра ўрыўкі са спектакля-казкі «Бег-Бай», якія паказаў драматычны тэатр-студыя Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей (СШ N37). Дарэчы, менавіта гэты нумар — пра складаныя ўзаемаадносіны паміж дзяўчынкамі і лялькамі — найбольш спадабаўся гледачам (лібрэта У.Іскрыка, пастаноўка Р.Баравіка). Добрых словаў заслугоўваюць і выступленні астатніх удзельнікаў вечарыны — вакальнага гуртка школы мастацтваў і хору «Аблачынка» СШ N43.

Паэт Сяргей Панізнік, які вёў вечарыну, падкрэсліў, што для дзяцей у нас пішуць музыку толькі некалькі чалавек, і Алег Чыркун — магчыма, найталенавіцейшы з іх. Для нацыянальнага адраджэння вельмі важна, каб лепшыя кампазітары супрацоўнічалі з паэтамі, дапамагалі праз песню, оперу, мюзікл распаўсюдзіць родную мову ў народзе. І таму зусім не выпадкова, што Алег Чыркун вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

**Наш кар.**

# ШЛЯХАМ АДРАДЖЭННЯ

Днямі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі з удзелам навуковай і творчай інтэлігенцыі адбылася прэзентацыя кніг выдавецтва «Бацькаўшчына». Яе адкрыла дырэктар бібліятэкі Галіна Алейнік. Вяла прэзентацыю супрацоўніца Людміла Рабок. Першым выступіў пісьменнік Яўген Лецка, кіраўнік выдавецкага Цэнтра «Бацькаўшчына». Ён ахарактарызаваў новыя кнігі Паўлы Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвінаў» і Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд», пазнаёміў прысутных з планам выдавецтва на бліжэйшы час.

Ім ужо падрыхтаваны да выдання навуковыя працы гісторыкаў — Яўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе» і Льва Мірачыцкага «Светлым ценем Адама Міцкевіча. Эміграцыя з Навагрудчыны», зборнік вершаваных твораў Алеся Салаўя «Нятусклая краса» (эмігранцкага паэта, які жыў у Аўстраліі), мемуары беларускага святара Язэпа Германовіча «Масква — Кітай — Сібір», «Беларускі народны соннік», складзены фалькларыстам Уладзімірам Васілевічам, кнігу «Жывое мінулае, або Афарызмы вечнага Рыма», якая змяшчае прыказкі і прымаўкі старажытнага народа і дзяржавы, выслоўі палітычных дзеячаў, гісторыкаў і філосафаў, пісьменнікаў і паэтаў далёкай эпохі.

У перспектыве выдавецкага Цэнтра «Бацькаўшчына» перавыданне навуковай працы Паўлы Урбана «У сьвятле гістарычных фактаў», якая ўбачыла свет на эміграцыі ў 1972 г. (Мюнхен — Нью-Ёрк), як адказ на прапагандысцкую брашуру Л.Абэцэдарскага «У святле неабвержных фактаў» (Мінск, 1969, выданне «Голаса Радзімы»).

У прэзентацыі новых кніг прынялі ўдзел народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, гісторык Мікола Ермаловіч, старшыня клуба «Спадчына» Анатоль Белы, паэт Яўген Гучок, былы выдавецкі працаўнік Якуб Якубовіч, якія падзяліліся ўражаннямі аб выданнях і выказалі шчырую падзяку аўтарам, а таксама выдавецкаму цэнтру «Бацькаўшчына» аб клопатах духоўных сыноў і дачок Беларусі на шляхах яе Адраджэння.

**Вінцэнт БОР.**

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

- 24 мая ў Омск на Міжнародны фестываль лялечных спектакляў, які будзе праходзіць з 27 мая па 3 чэрвеня, адправіліся артысты Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. Беларускія ўдзельнікі пакажуць спектакль «Дзед і жораў» паводле твора В.Вольскага.
- 27 мая ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрыюцца дзве выставы: «Іканапіс Гомельшчыны XVIII— XX стагоддзяў», у экспазіцыі якой будуць прадстаўлены абразы з фондаў Нацыянальнага музея і Веткаўскага музея народнай творчасці, і «Наіўнае мастацтва Беларусі», арганізаваная Беларускім інстытутам праблем культуры.
- 28 — 29 мая ў Гродне пройдзе фэст польскай песні, у якім возьмуць удзел польскія аматарскія калектывы з розных гарадоў Беларусі. Міністэрства культуры і друку стала фундатарам гэтай культурнай акцыі.
- 28 — 30 мая ў Мінску ў інфармацыйна-культурным цэнтры Савета Міністраў Беларусі адбудзецца заключны канцэрт рэспубліканскага тэлевізійнага фэсту «Усе мы родам з дзяцінства», у якім выступяць лепшыя калектывы і выканаўцы з усіх абласцей краіны. Пераможцаў чакаюць прызы і дыпломы. Свае ўзнагароды прызначыла Міністэрства культуры і друку.
- 28 — 30 мая ў мінскім Доме афіцэраў пройдзе рэспубліканскі фэст «Афганістан баліць у маёй душы», наладжаны Камітэтам па сацыяльнай абароне вайскоўцаў, асоб радавога і кіруючага саставу пры Савеце Міністраў Беларусі.
- 28 мая ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі — прэм'ерны паказ аперэты ў трох дзеях М.Стрэльнікава — «Халопка».
- 29 мая ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі — канцэрт Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі, які ўзначальвае мастацкі кіраўнік і дырыжор В.Дуброўскі. Дырыжор — П.-Д. Панэл (Германія). У праграме: Малер — Адажыо з Сімфоніі N10, Шастаковіч — Сімфонія N5.

# ДЭМАКРАТЫЯ?.. КАМУ ЯНА ПАТРЭБНА?

Магчыма, гэты кангрэс трэба было праводзіць два гады таму, калі ўжо з'явіліся яўныя прыкметы спынення рэформаў у Беларусі, стагнацыі ў яе эканоміцы і грамадстве. І ўсё мацней стала вымалёўвацца тое, што мы ясна бачым цяпер: рэзкі наступ сіл рэакцыі на дэмакратыю, асобу, нацыю.

Менавіта аб гэтым гаварыў на Міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры «Пост-таталітарнае грамадства: асоба і нацыя» народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, чые словы мы паставілі ў загаловак. Гаварыў ён са страснасцю і рэзкасцю чалавека, які сваім жыццём даказаў, што чалавек можа і павінен змагацца за свабоду Слова, Веравызнання, Асобы.

Сапраўды, свет, у якім мы жылі больш за 70 гадоў, быў нейкім нібыта прывідным, ілюзорным, алагічным. Але, як ні дзіўна, мы прывыклі да гэтага дзіўнага, страшнага, вырадлівага свету, прыстасаваліся да яго і нават прывыклі да надзеі — вечнай надзеі на светлае будучае, якое чакае нас далёка за гарызонтам.

Кангрэс паспрабаваў даследаваць як феномен грамадскай, агульнай свядомасці, так і феномен асобы, якая прывыкла жыць хаця і не надта заможна, але ж мець заўсёднае, хаця і вельмі сціплае карытца, а да дзяржавы адносіцца як да нечага вечнага, што хаця і прыгнятае, але затое і корміць. Хаця сам «сацыялізм з чалавечым тварам» нібыта і быў даследаваны, аказалася, што не было ўлічана яго смяротнае ўздзеянне на чалавечую псіхіку, што з такой трагічнай паслядоўнасцю адкрываецца нам цяпер год за годам.

На кангрэсе прысутнічала няшмат пісьменнікаў, вучоных і грамадскіх дзеячаў, але іх смела можна назваць лепшай, найбольш нацыянальна свядомай часткай беларускай інтэлігенцыі, якая заўсёды прытрымлівалася высокіх ідэалаў свабоды і незалежнасці Беларусі. Сярод іх — прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтра народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і народны пісьменнік Васіль Быкаў, акадэмік Віктар Каваленка, прафесар Адам Мальдзіс, паэты Сяргей Законнікаў, Алег Лойка, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Някляеў, наш славуты філосаф Уладзімір Конан і іншыя. У кангрэсе таксама прынялі ўдзел замежныя госці: спадары Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, юрыстка Вольга Помар з ЗША, Валянцін Аскоцкі і Юрый Сураўцаў з Расіі, Яцэк Бахонські з Польшчы, а таксама госці з Літвы, Латвіі, Германіі, Чэхіі, Украіны.

Магчыма, словы Васіля Быкава падаюцца занадта рэзкімі, калі ён характарызуе нашую сучаснасць, але з ім немагчыма не згадзіцца: «Эканоміка ў руінах, суверэннасць прададзена, дэмакратыя не адбылася. Камуністычны монстр пасля нядоўгага ўік-энду прыступіў да сваёй руціннай працы. Ён — усё ў тым жа абліччы. Хіба што зараз замест пяцікантовай зоркі ягоны лоб упрыгожвае праваслаўны крыж. Зорка разам з партбілетамі схавана ў запас. Мінулыя справы бласлаўляе трохпалосны сцяг і святая Пагоня...»

Пытанні, якія закраналі ўдзельнікі кангрэсу, дазволілі па-новаму адчуць многія праблемы і цяжкасці нашага жыцця. І перш за ўсё — ролю пісьменніка ў грамадстве, які, як ніякая іншая асоба, павінен не толькі сам адказваць за сябе, але і браць на сябе адказнасць за ўсіх. Так было заўсёды. Бо менавіта пісьменнікі захоўвалі і развівалі аснову нацыі — нацыянальную мову. Як казаў Рыгор Барадулін, «... тады, калі ў чырвонай імперыі, як заўсёды, ударнымі тэмпамі вынішчалася ўсё нацыянальнае, на беларускіх пісьменнікаў легла адказнасць захаваць мову — аснову нацыі і магчымы будучай дзяржавы. Адразу след агаварыцца, што гэта хутчэй ад усяго была дазволеная адказнасць, вымушаны дазвол з боку манапольнай партыі камуністаў. Давалася амплітуда смеласці, якая рэгулявалася жорстка. Літаратура, як і ўся культура, мусіла быць нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце. Напрыклад, на пляшчы з белавежскай горкай беларускі арнамент нясмела нагадваў нацыянальную прыналежнасць інтэрнацыянальнага напою. У дадзеным выпадку змест урэшце вырашаў усё.

... Цяпер фармальна няма імперыі, фармальна Беларусь незалежная Дзяржава, фармальна пісьменнік можа быць вольны. Ды вольны ён перш за ўсё ад сродкаў існавання, ад магчымасці друкавацца і выдавацца. Старыя структуры пад новымі шыльдамі тужаць зашмаргу на шыі беларускай мовы. Па-ранейшаму адчуваецца сумна вядомае: «язык партии — русский язык». Нашая мова адразу не можа скінуць з сябе магільную пліту вагою ў два стагоддзі. Беларуская літаратура крычыць, але яе не чуюць уладатрымцы, бо яны гадаванцы таталітарнага рэжыму, яны так званыя інтэрнацыяналісты. І беларускія пісьменнікі ў сваёй дзяржаве як пасынкі ці як байструкі».



І гэта становішча зразумела, бо, як падкрэсліў Адам Мальдзіс у сваім дакладзе, «... У сённяшняй Беларусі ўзнікла унікальнае ў Еўропе становішча: асноўнае, карэннае насельніцтва краіны, якое складае 80 працэнтаў усіх грамадзян, падзелена на дзве няроўныя часткі. Яны заўважаюцца адразу нават недасведчаным вокам і слыхам — дастаткова прайсці па вуліцах Мінска, зайсці ва ўстановы і кнігарні ці паслухаць трансляцыю выступленняў беларускіх парламентарыяў. Большая, дэнацыяналізаваная частка беларускага насельніцтва абыякава адносіцца да свайго генетычнага паходжання, саромеецца яго, а то і актыўна супрацьстаіць яму, вынішчае яго, абзываючы нацыяналізмам, нацыянал-фашызмам і ўсялякімі іншымі словамі, якія выклікаюць і жах, і страх у недасведчаных жыхароў заходнееўрапейскіх краін. Меншая ж частка адстойвае правы свайго народа «людзьмі звацца», абараняе нацыянальныя інтарэсы».

Пытанне, што найперш: правы чалавека ці правы нацыі — вельмі няпростае, і на гэтую тэму разважалі і Валянцін Аскоцкі, і Юрый Сураўцаў. Апошні казаў аб неаімперскіх тэндэнцыях Расіі ў адносінах да суверэнных краін, што ўвасобіліся ў былы Савецкі Саюз... Гэтыя тэндэнцыі моцна непакояць тых расійскіх інтэлігентаў, якія не спалучаюць імкненне да дэмакратыі з вялікарускім шавінізмам. Ён затрымаўся на «феномене Валянціна Распуціна» — таленавітага пісьменніка, які даў свету вобразы людзей, што супрацьстаялі догме савецкай ідэалогіі, а сёння выступае ў саюзе з генераламі КДБ Сцерлігавым і генераламі рускіх фашыстаў Альбертам Макашовым. Аб правах асобы і сувязі гэтых правоў з нацыянальнай самасвядомасцю добра казаў намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па галоснасці, правах чалавека і сродках масавай інфармацыі паэт Анатоль Вярцінскі: «... І ўвогуле — ці існуюць правы чалавека ў адрыве ад правоў нацыі? Правы нацыі на самавызначэнне, існаванне і свабоднае развіццё, як і правы чалавека на жыццё, свабоду, уласнасць і супраціўленне насіллю, маюць натуральнае паходжанне. Яны ўзаемаабумоўлены і таму сацыяльна несупрацьпаставімыя. Прырода не ведае чалавека безнацыянальнага. Чалавек — мера рэчаў, як казалі старажытныя, сэнс і цэнтр прыцягнення ўсіх грамадскіх адносін. Як носьбіт уласцівасцей і вартасцей роднай нацыі, ён мімаволі выступае ў ролі звязальнага звяна нацыянальных зносін у быту і на вытворчасці, у міжнацыянальных дачыненнях у цэлым. Бо правы чалавека таксама натуральна ўключаюць правы на родную мову, культуру, традыцыі, на этнічную саматоеснасць.

Нацыянальная годнасць — пачуццё свабоднага чалавека, бо адчувальнае перш за ўсё ў зносінах і параўнанні з годнасцю роўных па правах людзей другой нацыянальнасці. Правы чалавека заўсёды знаходзяцца пад пагрозай ва ўмовах несвабоды любой нацыі: як той, з якой ён звязаны фактам свайго нараджэння і станаўлення, так і той, з прадстаўнікамі якой у яго адбываецца пастаяннае сумоўе. Павага правоў нацый ёсць фактар, які сцвярджае правы чалавека. Супрацьпастаўляць правы чалавека і правы нацыі — тое самае, што супрацьпастаўляць асобнае дрэва лесу. Добра дрэву — добра лесу і наадварот: дрэнна кожнаму асобнаму дрэву, калі дрэнна ўсяму лесу».

Карнеліус Платэліс, прэзідэнт Літоўскага ПЭН-цэнтра, працягваючы размову аб правах чалавека, заявіў: «Мы не можам дамагчыся поспеху ў стварэнні адкрытага грамадства, прымушаючы каго-небудзь: асобу ці нацыю. Мы вымушаны прайсці праз іх самавызначэнне і таксама праз гарантыі правоў чалавека для іх абедзвюх. І толькі тады асабістая і нацыянальная напружанасць знікнуць, і раней ці пазней кожны зразумее, што дастаткова пажыў у закрытай зоне. Кожнае грамадства і, у першую чаргу, асоба патрабуюць нармальнага чалавечага жыцця, і толькі частка людзей хоча спачатку ўтрымаць свае ідэі. Адкрытае грамадства дае магчымасць кожнаму здзейсніць свае жаданні і нікому не дазваляе навязваць свае ідэі і каштоўнасці іншым».

А Алег Лойка, у сваю чаргу, паглыбіў тэму развагаў аб месцы паэта ў грамадстве, бо сённяшняя пазіцыя творцы ўсё ж многае вырашае, і да яго, нягледзячы на вонкавую абыякавасць уладаў, усё ж прыслухоўваюцца ў грамадстве. Сведчанне таму — нядаўна прыняты на з'ездзе пісьменнікаў «Зварот да народа», палажэнні якога амаль цалкам адпавядаюць агульнаму пафасу канферэнцыі і які, як гэта ні шкада, не надрукавалі многія, нават быццам бы прагрэсіўныя газеты. Дарэчы, журналіст Алесь Мікалайчанка гаварыў аб праследах журналістаў і аб тым, што «саўмінаўская рука» надта ж адчуваецца ў беларускай журналістыцы... Дык вось Алег Лойка, як заўсёды тэмпераментна, заявіў аб месцы і прызначэнні Паэта: «... А час наш, пост-таталітарны час наш, ён жа бурлівы, хмарны, хмарны!.. І як не ўсплываць у ім зноў пытанню, звязанаму з тым, кім быць, кім не быць паэту? Дык паэтам быць яму, паэту, і ці быць грамадзянінам? Вядома ж, грамадзянінам быць, але гэта не значыць, што паэтам ён можа і не быць, бо яму, каб быць грамадзянінам, трэба быць найперш паэтам. Паэт вышэй грамадзяніна! Паэту, асобе, таленту перш за ўсё належыць свабода. Без свабоды паэта, чалавека няма сапраўднага грамадзяніна ў царстве паэзіі, і ў рэспубліцы паэзіі, і ў грамадстве наогул. Элітарнасць паэта, яна ад спецыфікі паэзіі, а не грамадзянскага народна-дэмакратычнага прызначэння. Ніякі яна не індывідуалізм, ніякі не нарцысізм, ніякі не арыстакратызм! І не партыя гэта — тое, што можна назваць элітарызм паэтаў у іх еднасці. Бо партыя — гэта частка чагосьці, гэта партыкулярнасць, якая імкнецца штосьці аб'ядноўваць. Элітарызм паэтаў у іх еднасці — гэта элітарызм непартыкулярызаванага агулу, гэта элітарызм па сутнасці сваёй самы дэмакратычны, самы народны».

Аднак у апошнія гады варожая да беларускага Адраджэння прэса зрабіла тых, хто дбае пра свой народ і зямлю, хто рупіцца на ніве беларускай культуры, ворагамі культуры ўвогуле, якія нібыта замкнуліся ў вузка нацыянальных рамках. Сведчаннем таму — ганебныя па сваёй сутнасці выступленні ў «Народнай газеце» дэпутата Сарокіна, які, як і многія іншыя з кагорты старых бальшавікоў, абрушваецца на паэта Ніла Гілевіча і беларускіх інтэлігентаў, страсна жывапісуючы былы камуністычны рай, дзе для беларускай мовы была створана паказальная рэзервацыя. Аб гэтым усхваленні, як аб сіндроме так званай «ружовай свядомасці», гаварыла Вольга Іпатава: «... Гэты сіндром неверагодна ўзрастае ў так званыя «смутныя часы», калі ад чалавека патрабуецца амаль недаступная для яго ўзроўню разважлівасць і ўменне аналізаваць, прыцягваючы да аналізу факты гісторыі і сучаснай палітыкі. Прасцей адшукаць ворага, вінаватага ва ўсім. Адным з такіх міфічных ворагаў сталі «дэмакраты». На Беларусі гэтае слова вымаўляецца цяпер гэтак жа, як некалі вымаўлялася «фашызм». Парадаксальнасць жа становішча ў тым, што калі ў Расіі пэўная частка дэмакратычных сіл займае ўладныя пасады, на Беларусі існуе поўнае ўладаранне пракамуністычных сіл».

Кангрэс прыняў шэраг заяў і дэкларацый, сярод якіх рэзалюцыя аб стварэнні Фонду дапамогі пісьменнікам і журналістам імя Алеся Адамовіча пры Беларускім ПЭН-цэнтры, куды адной з першых зрабіла свой унёсак і газета «Культура». Галоўнае ж, што дэмакратычныя сілы ўсё больш выразна разумеюць, як сказаў Вячаслаў Рагойша, што «суверэнізацыя Беларусі — працэс неабарачальны. Аднак тэмпы нацыянальнай дзяржававытворчасці, яе характар, сутнасць, працягласць будуць залежаць ад многіх чыннікаў. У тым ліку — і ад грамадскай актыўнасці рэспубліканскай творчай інтэлігенцыі, што, на жаль, у сваёй пераважнай большасці пазіцый сваіх не выявіла».

**Ягор ФЯДЗЮШЫН,**
наш спец. кар.

*На здымку:* Васіль Быкаў і Валянцін Аскоцкі (Расія).

**Фота Яўгена Коктыша.**

РАСКАДРОЎКА

# УВАГА: ЗАРАЗ ВЫЛЕЦІЦЬ ПТУШАЧКА!

**У рубрыцы «Раскадроўка» мы працягваем дыскусію пра сучаснае беларускае кінамастацтва. Папярэднія матэрыялы, прысвечаныя гэтай праблеме, былі надрукаваны ў NN 13,14,18 «Культуры».**

Ці існуе сёння беларускае кіно? Пытанне, на якое наўрад ці зможа хоць хто-небудзь адказаць. Яно быццам бы існуе, але ніхто яго не бачыць. На праспекце Скарыны ў Мінску ёсць будынак з шыльдаю «Беларусьфільм». Раз яна вісіць, значыць, пакуль што і памяшканнямі на аўкцыёне не гандлявалі. Але па калідорах швэндаюцца розныя там фірмачы, кідаючы вокам на запаветныя пакоі пад будучыя офісы, канторы, крамы.

У адным з кабінетаў параскіданыя рэшткі разгромленага, знішчанага музея беларускага кіно — мастацтва, што мела багатую гісторыю. З 1924 па 1991 год нацыянальным кінематографам напрацаваны велізарныя мастацкія здабыткі, значэнне якіх у духоўным жыцці нашага народа цяжка пераацаніць. Асабліва плённымі былі 50 — 60-я гады. Гэта быў час росквіту нашага кіно. На розных міжнародных фестывалях стужкі «Беларусьфільма» атрымлівалі прэстыжныя ўзнагароды. Да прыкладу, карціна «Дзяўчынка шукае бацьку» была ўшанавана прызамі ў Аргенціне і Італіі, «Іван Макаравіч» — у Італіі. Фільм «Альпійская балада» з вялікім поспехам абышоў экраны шматлікіх краін свету, а ў Індыі ў сувязі з яго паказам нават наладзілі спецыяльны фестываль беларускага кіно. На студыю ішлі сотні лістоў ад удзячных гледачоў. Хіба гэта не ацэнка творчай працы майстроў? Між іншым, большасць з лепшых стужак таго часу была створана ў вельмі складаных умовах, у не найлепшым чынам прыстасаваным памяшканні былога касцёла, дзе тады размяшчалася кінастудыя.

У 1960 годзе беларускія кінематаграфісты атрымалі новую, цудоўна абсталяваную студыю, хоць умовы для творчай працы былі далёкімі ад ідэальных. Безумоўна, на шляху творчых пошукаў было шмат перашкодаў і забаронаў, але не толькі і не столькі ідэалагічнага характару. Найперш існавалі заслоны для непрафесійных карцін. Добрыя ж, вартыя ўвагі шырокага гледача, выходзілі на экраны, яны добра рэкламаваліся, а іх стваральнікі атрымлівалі званні, ордэны, медалі, розныя прызы, прэміі.

Такая атмасфера, што склалася ў беларускім кіно, не задавальняла некаторых майстроў. Ім мроілася поўная свабода: што хачу, тое і раблю! Не выпадкова кінастудыя, Дом кіно на нейкі час ператвараліся ў дыскусійныя клубы з удзелам дзеячаў Беларускага народнага фронту. Гучалі палымяныя прамовы і заклікі ламаць усё, што звязана з таталітарным рэжымам. А ў адказ — апладысменты, апладысменты! Вось яна — доўгачаканая свабода! І якія цудоўныя перспектывы вымалёўваліся: дзяржава будзе абсыпаць кінематаграфістаў грашовым дажджом, а яны будуць тварыць тое, што іх душа пажадае! Мары марамі, але жыццё часцей за ўсё ўносіць у іх істотныя карэктывы.

Пра грошы размову павядзем крыху ніжэй. Зараз пра вынікі доўгачаканай «свабоды». Асабліва руплівыя «рэфарматары» паднатужыліся і сапраўды разнеслі ўшчэнт беларускае мастацтва. А што стварылі? Асобным «творцам», напэўна, здавалася, што калі яны здадуць свае партыйныя білеты і памяняюць плюсы на мінусы, дык адразу ж з'явяцца шэдэўры. І дзе ж яны? Вось ужо мінула некалькі гадоў, а беларускае мастацтва ператварылася ў неўрадлівае поле. Не з'явілася ніводнага больш-менш прыкметнага твора. Жыццё ж працягваецца, асобныя фільмы здымаюцца, а нашы кінематаграфісты час ад часу засвечваюцца на рознага кшталту фестывалях. З кімсьці яны цалуюцца, абдымаюцца, ім дораць кветкі і прызы, але хто, акрамя журы, бачыў іх «шэдэўры», хто пачуў хоць адно новае імя рэжысёра, аператара, акцёра — узыходзячых «зорак»?

Сёння на кінастудыі «Беларусьфільм» кіруюць новыя людзі, якія пазначылі праграму рэарганізацыі кінавытворчасці. Мяркуецца замест студыі стварыць нейкі трэст або нават сіндыкат, значна абнавіць састарэлую матэрыяльную базу і шмат іншага зрабіць. Неблагія планы, але дзе дзеля іх увасаблення знайсці адпаведныя велізарныя сродкі? Новыя кіраўнікі спадзяюцца на дапамогу нейкай амерыканскай асацыяцыі, але не так ужо цяжка здагадацца, што калі гэтая асацыяцыя і раскашэліцца, то будзе яна найперш дбаць пра свае інтарэсы, а не пра развіццё беларускага мастацтва.

Натуральна, асноўныя спадзяванні беларускія кінематаграфісты ўскладваюць усё ж на свой урад, які згодна з праграмай развіцця нацыянальнай культуры паабяцаў у гэтым годзе выдзеліць студыі сродкі на пастаноўку некалькіх мастацкіх і з дзесятак дакументальных фільмаў. Па сённяшнім часе гэта шалёныя грошы, адшукаць іх ураду будзе нялёгка, але калі абяцанне дадзена, то, напэўна, яно будзе выканана. Здавалася б, цяпер кінематаграфісты могуць спаць спакойна. Але, вось бяда, тут ёсць гэтае адно «але»... Калі ўрад усё-такі дасць студыі абяцаныя грошы, то гэта будзе тое самае, што іх выкінуць на сметнік. У чым тут справа? А ў тым, што нават калі новыя фільмы будуць супершэдэўрамі, іх усё адно не будзе дзе і каму паказваць.

Існуюць дзве магутныя сістэмы, якія паасобку не могуць жыць — кінематограф і пракат. Першы стварае фільмы і прадае іх другому. Той жа паказвае іх гледачам, пры гэтым мусіць не толькі акупіць кошт фільмаў, эксплуатацыйныя выдаткі на ўтрыманне кінатэатраў, але яшчэ і атрымаць пэўны прыбытак.

Агульнавядома, што толькі пры існаванні магутнага савецкага кінапракату маглі спакойна працаваць такія стратныя кінастудыі, як Літоўская, Латышская, Эстонская, Малдаўская, Таджыкская, Армянская і інш. У большасці выпадкаў мастацкі ўзровень фільмаў, створаных на гэтых кінастудыях, быў невысокі, і яны не карысталіся поспехам у гледачоў. Але нават у выпадку, калі які-небудзь з гэтых фільмаў быў паказаны хоць на адным сеансе у кожным горадзе былога СССР, то ён сябе ўжо акупляў. Зусім заканамерна, што зараз, калі развалiўся ўсесаюзны пракат, амаль усе саюзныя кінематаграфіі спынілі сваё існаванне, як, дарэчы, і кінематаграфіі ў былых краінах сацыялістычнай садружнасці: у Польшчы, Балгарыі, Румыніі, Чэхіі, Венгрыі. Кінавытворчасць захавалася толькі ў Расіі, але і яна дыхае на ладан. Яшчэ пяць-дзесяць гадоў таму на «Масфільме» стваралася да 70 мастацкіх фільмаў, цяпер... 4 — 5. Каментар, здаецца, не патрабуецца.

Няма сакрэту, што сёння былы савецкі пракат кантралююць амерыканскія бізнесмены і айчынная мафія, атрымліваючы вялікія прыбыткі. Ужо зараз экраны краінаў СНД на 98 працэнтаў запоўнены амерыканскай кінамакулатурай, а ў бліжэйшы час, мяркую, гэтая лічба павялічыцца да 100 працэнтаў. Такі ж стан і ў кінапракаце Беларусі. Дык дзе і каму будуць паказваць свае фільмы нашыя кінематаграфісты? Ім няма нават доступу на нацыянальнае тэлебачанне. Куды ўжо далей?..

Дык ці ёсць хоць якое-небудзь выйсце з такога стану? Ёсць. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова ўспомніць некаторыя старонкі гісторыі сусветнага кіно.

У 20-я і 30-я гады амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах існавалі свае нацыянальныя кінематаграфіі, якія стваралі значную колькасць фільмаў. Але пасля вайны Галівуд накінуў на шыі еўрапейскіх кінематаграфій сваю пятлю і амаль што задушыў іх. Самастойнасць змаглі захаваць толькі італьянцы і французы. Якім чынам? Гэты вопыт карысна ўспомніць сёння і нам. Змагаючыся за эканамічную самастойнасць, урады Італіі і Францыі строга абмежавалі паказ у сваіх краінах замежных фільмаў: іх колькасць не магла пераўзыходзіць 15 працэнтаў, пры гэтым яны абкладваліся такім высокім падаткам, што пракат закупляў толькі сапраўды выдатныя карціны, якія да таго ж гарантавалі высокія зборы. Сваім жа кінематаграфіям урады аказвалі ўсебаковую дапамогу: рэзкае зніжэнне падаткаў з кінастудый, буйныя датацыі і да т.п. Была таксама арганізавана шырокая сетка спецыяльных камітэтаў у абарону нацыянальнага кіно, якія праз кінаклубы вялі сярод насельніцтва шырокую прапаганду айчынных фільмаў. Усё гэта спарадзіла ў пасляваенных Італіі і Францыі сапраўдны кінематаграфічны «бум», звязаны з імёнамі рэжысёраў Дэ Сіка, Раселіні, Вісконці, Дэ Санціса, П.Жэрмі, Л.Дзампы, Ф.Феліні (Італія); М.Карнэ, Ле-Шануа, Р.Клера, А.Каята, К.Жака, Л.Дакена, Ж.Дзювіўё (Францыя). А якіх вялікіх акцёраў далі свету гэтыя краіны — А.Маньяні, Д.Лалабрыджыда, С.Ларэн, М.Мастраяні, К.Кардынале, А.Сордзі, Ж.Філіп, Ж.Габэн, Бурвіль, Б.Бардо, А.Дэлон... Спіс далёка не поўны.

На жаль, гэты кінарэнесанс у Італіі і Францыі працягваўся нядоўга, і ўжо на мяжы 60 — 70-х гадоў амерыканскія

# ВАСІЛЬ ПІЧУЛ: «КАЛІ Ж ЛЮДЗІ ЗРАЗУМЕЮЦЬ, ШТО СУСТРЭЧА З КЛІНТАНАМ — НЕ САМАЯ ВЯЛІКАЯ РАДАСЦЬ?»

*Ці застаўся б зусім нядаўна без працы рэжысёр, фільм якога збіраў мільёны гледачоў?*

*Пытанне, вядома, рытарычнае. Безумоўны поспех «Маленькай Веры» ў пракаце, мора публікацый у прэсе, мяхі лістоў зрабілі Васіля Пічула знакамітым, наступныя яго работы — жаданымі, а цяпер ужо і доўгачаканымі. Але прайшло больш за год з таго часу, як адбылася прэм'ера апошняга фільма рэжысёра «Мара ідыёта» паводле рамана Ільфа і Пятрова «Залатое цяля».*

**— Нядаўна прачытала ў «Курантах», што Вы збіраецеся здымаць серыю канцэртаў, з якімі Сяргей Крылоў і ягоная каманда паедуць па краіне.**

— Я «Куранты» не выпісваю. Ды й Сяржук не паспеў мне дакласці аб грандыёзным праекце. Але паколькі ўсе акцёры, што здымаліся ў мяне, робяцца членамі маёй сям'і, амаль сваякамі, а Сержука я проста палюбіў за тыя два доўгія гады, то калі шэсце ягоных канцэртаў адбудзецца, — я буду гэта здымаць.

**— Іншых перспектываў пакуль што няма?**

— Калі я знайду надзвычай удалы сцэнарый, здыму выдатны фільм. Цяпер, акрамя мастацкай вартасці, сцэнарый павінен валодаць шэрагам неацанімых якасцей: быць танным, дагаджаць інтарэсам людзей, якія ходзяць яшчэ ў кінатэатры, і даць карціне шанц трапіць у замежны пракат, інакш не вернуцца выдаткаваныя грошы.

**— Значыць, чым далей, тым меней «свабоды творчасці»?**

— Чаму? Мяне ніхто не прымушае займацца пошукамі універсальнай рэчы, я раблю гэта па асабістай ініцыятыве. Кіно ўвогуле складваецца з паўсюдных кампрамісаў. Зараз іх болей і яны больш жорсткія. Некалі, шчыра кажучы, мне было ўсё роўна, выйдзе або не выйдзе на экран «Маленькая Вера», у маім рэжысёрскім лёсе гэта нічога не мяняла. Цяпер за кожным фільмам стаяць вялікія грошы і шэраг абставін, звязаных з гэтым. А гэта ўжо сур'ёзна.

**— Але чаканне можа працягвацца і год, і два, і...**

— Мне не хочацца так думаць, гэта вельмі бязлітасна.

**— Ільф і Пятроў называлі свайго героя Вялікім Камбінатарам. Здавалася, сёння прыйшоў час Астапа Бэндэра. Чаму ў Вашым фільме ён атрымаўся такім сумным?**

— З самага пачатку я вырашыў адысці ад распаўсюджанага вобраза, што стаў ідэалам для многіх людзей, якім пашанцавала дабіцца вялікіх поспехаў. Ва ўсякім разе, глыбока ў душы шмат хто намагаецца быць падобным на яго.

Прынцыповы канфлікт паміж мной і прыхільнікамі рамана, якія рэзка не прынялі фільм, у тым, што звярнуўшыся да адзінага капіталістычнага твора, які стварылі за гады сацыялістычнай улады, мы зрабілі стужку антыкапіталістычную.

**— Узгадваючы страсці, якія разгарнуліся па «Маленькай Веры», не магу не запытацца: Вы заўсёды ў апазіцыі да існуючага рэжыму?**

— Канфлікт паміж афіцыйнай ідэалогіяй, якая пануе ў дадзены момант, і мной — адвольны. Я не апазіцыянер, не займаюся палітыкай, намагаюся ўвогуле не гуляць у такія гульні: да сённяшняй улады стаўлюся абыякава.

**— Хіба гэта ніяк на закранае Вашага жыцця альбо жыцця родных?**

— У большасці сваёй — не. Тое, што сёння адбываецца ў дзяржаве, заканамерна і не залежыць ад улады. Чакаць што-небудзь ад іх бесперспектыўна.

**— Будучыня беспрасветная?**

— Калі казаць пра кіно, то мой аптымізм наадварот — бязмежны. Штодзень я выходжу гуляць разам з двухгадовым сынам Рыгорам па былой ВДНГ. І кожны дзень на мяне абрушваецца натоўп людзей, якія нясуць з гандлёвага цэнтра тэлевізары і відэамагнітафоны. Далібог, яны гэта робяць зусім не для таго, каб запісаць праграму «Итоги». У людзей засталося жаданне глядзець фільмы. Трэба прыняць такія законы, якія маглі б працаваць на кіно.

**— Што атрымалася з Вашага кааператыва «Падарунак»?**

— Намінальна ён існуе. Я арганізаваў яго разам з прадзюсэрам Маркам Левіным, які днямі прыехаў у Маскву афармляць дакументы на пастаяннае месца жыхарства ў Лос-Анджэлесе...

**— Чула, што Наталля Нягода таксама жыве за мяжой.**

— І таксама ў Лос-Анджэлесе. Чалавек, які хоча працаваць у сапраўдным кіно, намагаецца часцей наведваць гэты горад. Наталля ўжо знялася ў двух амерыканскіх фільмах.

**— У Вас няма думкі паспытаць шчасця ў кінематаграфічнай Мецці?**

— Аб рэальнай перспектыве казаць складана. Каб здымаць у Амерыцы амерыканскае кіно, трэба быць амерыканцам, аднак я ім сябе не адчуваю. Здымаю пра тое, што ведаю.

**— Усе Вашыя фільмы аб трагедыі пакаленняў. Ці адчуваеце Вы неабходнасць працягваць тэму?**

— Цяпер становішча цяжкае. Вялікая колькасць людзей старэйшага пакалення не могуць ні прыняць, ні прыстасавацца да таго, што робіцца наўкол. А тыя, хто маладзейшы, хто здолеў упісацца ў новы

кампаніі пераадолелі эканамічныя бар'еры — на еўрапейскі кантынент абрынулася плынь нізкагатунковай заакіянскай прадукцыі, і адна за другой нацыянальныя кінематаграфіі спыняюць сваё існаванне. Сёння ў Італіі і Францыі ў год ствараецца ўсяго па некалькі фільмаў, у Швецыі і Фінляндыі — па аднаму, а англійскія кінастудыі ўвогуле скупіў Галівуд і выкарыстоўвае іх як здымачныя пляцоўкі. Сумныя вынікі.

Так, сёння ў Беларусі варта было б усёй грамадскасці стаць у абарону нацыянальнага кіно, патрабаваць ад урада значных матэрыяльных уноскаў у кінавытворчасць, рашуча абмежаваць паказ у кінатэатрах амерыканскага смецця. Шмат яшчэ чаго варта было б зрабіць, але ці дапамогуць гэтыя меры карэнным чынам змяніць сітуацыю? Не трэба забываць, што ў пасляваенныя гады Італія і Францыя былі незалежнымі дзяржавамі ў поўным аб'ёме разумення гэтага паняцця. Яны праводзілі самастойную палітыку, якая адпавядала ўласным нацыянальным інтарэсам. Пра сёняшнюю Беларусь гэтага не скажаш. Яна, як і іншыя рэспублікі былога СССР, па сутнасці стала развіваючайся краінай. Дык ці варта суцяшаць сябе ўяўнымі надзеямі, верыць, што амерыканскі бізнес адмовіцца ад сваіх інтарэсаў, ад велізарных прыбыткаў, дазволіць нейкім там папуасам развіваць нацыянальную кінематаграфію?

Сёння на «Беларусьфільме» сярод тых яе супрацоўнікаў, якіх пакуль што не скарацілі, ходзяць чуткі, што нейкая амерыканская тэлевізійная ці кінакампанія збіраецца ў бліжэйшы час даць ім замову на вытворчасць некалькіх відэакліпаў-рэклам найноўшых унітазаў і сродкаў па догляду за імі. Няма сумнення, што тытулаваныя майстры беларускага кіно з гонарам выканаюць гэтае «ганаровае» заданне і нават заробяць кучу «зялёненькіх». Парадуемся за іх. Але няўжо гэта і ёсць свабодная творчасць, што таму-сяму яшчэ нядаўна здавалася такой жаданай і прывабнай? А што далей?

Калі фатограф здымае групу дзяцей, ён звычайна гаворыць: «Глядзіце ў аб'ектыў, адтуль вылеціць птушачка!» Можа, і беларускім кінематаграфістам варта паверыць, што аднекуль і для іх выпырхне птушка ўдачы? Чаго толькі не бывае! Тым больш, што на большае, чым цуд, ужо няма спадзяванняў.

**Вацлаў СМАЛЬ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

**Ад рэдакцыі: Дыскусія па праблемах сённяшняга стану і заўтрашніх перспектыў кінамастацтва працягваецца. Як мы і абяцалі, кожная зацікаўленая асоба свабодна выказвае сваю думку. Мяркуем, што спрэчныя нататкі спадара Смаля «падлілі масла ў агонь» дыскусіі. Чакаем допісаў ад нашых чытачоў і, найперш, ад практыкаў кінематографа.**

---

жыццёвы стыль, паводзіць сябе надта агрэсіўна ў дачыненні да пажылых людзей. Канфлікт пакаленняў сёння, на жаль, больш жорсткі і крывавы.

**— Чаму Вашыя стужкі маюць фінал, калі не трагічны — дык сумны?**

— Гэта мой крыж, пралікі выхавання. Мне вельмі хочацца прыдумаць шчаслівы фінал, але ў душы сумна. У «Марах ідыёта» і герой не загінуў, і грошы засталіся, а шчасця ўсё роўна няма...

**— А ў Вашым жыцці яно ёсць?**

— Гэта мае дзеці. Акрамя сына, я маю дванаццацігадовую дачку Сашу. Яна дарослая дзяўчынка, іграе на флейце.

**— Бацькі перабраліся ў Маскву?**

— Не. Бацьку ўжо пахаваў. А маці і бабуля жывуць па-ранейшаму ў Марыупалі, гэта Украіна.

Калі я быў падлеткам, мы чамусьці дрэнна ставіліся да масквічоў, казалі: у вас няма белага хлеба, мора. Такое яшчэ даруецца хлапчукам, але калі на гэтым падмурку будуецца палітыка дзяржавы, разбураюцца лёсы людскія, то мне становіцца балюча. Безумоўна, з цягам часу людзі, якія вызначаюць лёс Украіны, пасталеюць і зразумеюць, што сустрэча з Клінтанам — не самая вялікая радасць у жыцці. Але як хутка гэта здарыцца?

**— Чаго Вам пажадаць?**

— Хутчэй пачаць здымкі новага фільма. У час працы я атрымліваю асалоду. Гэтак было на здымках «Мары ідыёта». Там кожны кадр, як па Эйзенштэйну, здымалі нібы апошні: грошы заканчваліся ў самыя нечаканыя моманты. І тым не менш, рабіць кіно — добрая справа. Чым яшчэ можна займацца, не маючы рэальнай прафесіі? Ці не падацца сапраўды ў таксісты?..

**Марына ПОРК.**
("Новая ежедневная газета")

# МІСТЭРЫЯ ПАВОДЛЕ КАРАТКЕВІЧА

*24 сакавіка ў народным тэатры чытальнікаў Беларускага Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта «Жывое слова» адбылася прэм'ера спектакля «Містэрыя» паводле рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Сваімі ўражаннямі аб гэтай пастаноўцы з чытачамі падзяліліся мастацкі кіраўнік тэатра Юрась Чарэнка, аўтар сцэнаграфіі Надзея Кароткіна і наш карэспандэнт Юрась Барысевіч.*

## Юрась ЧАРЭНКА:

Спектакль па «Хрыстосу...» — мара даўняя і, здавалася, нязбытная, настолькі ёмістым, шматузроўневым і малападатлівым для тэатральнага дзейства выглядаў раман. І гэта пры тым, што да рэалізацыі задумы ішлі вельмі доўга. Бо перад тым былі спектаклі паводле рамана «Нельга забыць» ("Леаніды вернуцца...") і аповесці «Сівая легенда» ("Балада"). Так што Караткевіча спасцігалі пакрыёма, хаця і сёння, пасля трэцяга запар спектакля па яго творах, сказаць, што спасцігглі, не адважымся.

Адкуль жа тады гэтая рызыка? У нейкай ступені ад усведамлення, што больш няма каму. І ў тым не песнаспеў унікальнасці роднага тэатра, а ўсяго толькі канстатацыя таго, што ў сталіцы беларускай (працытуйма незабыўнага Францішка Ведзьмака-Лысагорскага) «другі артыст народны не знаў і двух народных слоў, затое меў тут харч нязводны і ў волю цешыўся з аслоў». Інакш кажучы, большасці прафесійных, а тым больш аматарскіх тэатраў, якія ахоплены зараз чумным паморкам «КаВэЭНізацыі», не да таго, што шчаслівым для беларусаў лёсам пасланаму на нашу зямлю У.Караткевічу ўяўлялася святым: Радзіма, Народ, Патрыятызм, Свабода. А калі раптам, і закрануць гэтыя тэмы, дык, крый Божа, каб не сентыментальна, не банальна, каб не падумалі, што ўсур'ёз. Хаця банальнасці можа пазбавіць толькі вера, банальна — хлусіць.

Раней здзіўляўся, а то і абураўся, чаму за Караткевіча не бяруцца прафесіяналы. Потым зразумеў: не прыйшоў час. І ўзрадаваўся — што не бяруцца. Караткевіч — усё яшчэ будучыня беларускай сцэны. Бо ствараць без веры немагчыма. А яе сёння няма, і не будзе, пакуль вакол нас, як пісаў Юрка Геніюш, — Афрыка, і беларускую культуру (а асабліва такія яе складнікі, як мова і літаратура) тутэйшае рэжысёрска-акцёрская грамада ўспрымае нечым такім далёкім і малапатрэбным, як танцы народаў Мазамбіка. Але вера тая прыйдзе, як толькі мы знойдзем сваё месца ў свеце. Апошняе якраз уяўляецца несумненным.

Ды толькі чакаць не выпадае. На тым і стаіць наш тэатр ад моманту яго стварэння ў 1966 годзе. І яшчэ на ўсведамленні эстэтычнай паўнавартаснасці мастацкага Слова.

Таму — тэатр *чытальнікаў*, імкненне не столькі іграць, колькі распавядаць пра сваіх герояў, не ўнікаючы, аднак, поўнасцю драматычнага дзеяння. Прынцып гэты быў рэалізаваны і ў «Містэрыі», гэтаму спрыяла эстэтыка вандроўнага тэатра і арыгінальная сцэнаграфія спектакля, прапанаваная Надзеяй Кароткінай. Жанр містэрыі, прыёмы карнавалізацыі падаліся найбольш прыдатнымі для рэалізацыі творчай задумы. Магчымасць такога рашэння закладзена ў мастацка-вобразнай тканіне твора. Камічнае становіцца ў рамане тым фонам, які выгодна адцяняе філасофскі план рамана. Караткевіч, падалося нам, якраз і прапанаваў пасмейваючыся пагаварыць пра рэчы вельмі сур'ёзныя, таму і называў гэты твор трагікамедыяй, народнай драмай.

Якраз так і паспрабавалі мы прачытаць раман. Што з таго атрымалася, меркаваць шаноўным гледачам, якіх мы імкнуліся не абмяжоўваць у пошуку адказаў на пытанні, выкліканыя спектаклем, пакідаючы прастору для роздуму і сумненняў, згадак і асацыяцый.

## Надзея КАРОТКІНА:

Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» прысвечаны падзеям беларускай гісторыі XVI стагоддзя. Гэта — своеасаблівая энцыклапедыя народнага жыцця Беларусі эпохі сярэднявечча. У аснову сюжэта пакладзены рэальны факт з'яўлення самазванца, ілжэхрыста, адзначаны ў старажытных беларускіх хроніках. Як казаў сам аўтар, «гэта гісторыя бадзягі, які воляй лёсу быў названы Хрыстом, вымушаны быў рабіць «цуды», і, урэшце, узначаліў паўстанне супраць царквы і караля. Гэта... не камедыя і не трагедыя, а трагікамедыя, смех праз слёзы, народная драма, калі хочаце».

Добра памятаючы пра тое, што ў адну раку нельга ўвайсці двойчы, я адмовілася ад літаральнага ілюстравання канкрэтнага гістарычнага перыяду. Мы сёння ўспрымаем сярэднявечча асацыятыўна, адштурхоўваючыся ад помнікаў гісторыі і культуры. У нашым уяўленні губляюцца дэталі, застаецца толькі нейкая таямнічая аўра, якая ахінае гэты перыяд. Таму сцэнаграфія спектакля — гэта апеляцыя да асацыятыўнага ўспрыняцця гледача. Да таго ж, спецыфіка тэатра чытальнікаў патрабуе, на маю думку, лаканізму Знешняга дзеля ачышчэння Унутранага.

Гэтыя разважанні прывялі мяне да эстэтыкі вандроўнага тэатра з яго падкрэсленай умоўнасцю і таннасцю (што таксама вельмі актуальна ў нашых умовах). Таму мастацкае вырашэнне сцэнічнай прасторы



стваралася пры дапамозе як быццам выпадкова накінутых тканін, галоўная роля якіх — утварыць ізаляваны ад вонкавага свету асяродак, той фон, на якім павінна адбывацца тэатральнае дзеянне.

Але — як перадаць той містычны дух, тое таямнічае напружанне, якія прысутнічаюць у рамане? І тут мне прыгадаўся цудоўны верш Алеся Разанава «Планета метамарфозаў». Вось некалькі радкоў з яго:

*Зайшло сонца — і ў небе ўзышла*
*тая загадкавая планета,*
*якая займае наш розум,*
*якая прыцягвае нашы пагляды, —*
*планета метамарфозаў.*
*Па прыхаманлівых нейкіх законах,*
*нібыта яна выпраменьвае*
*свае ўспаміны ці сны, на ей*
*час ад часу ўзнікаюць постаці*
*наскіх, знаёмых істотаў:*
*льва,*
*чалавека,*
*птаха,*
*быка.*
*Што яны азначаюць?*
*Чаму іх столькі?*
*Можа, яны нешта сведчаць пра нас,*
*што невядома і нам самім?*

Так з'явіўся сімвал Вечнага — чатырохвокая містычная істота, якая моўчкі назірае за падзеямі. У гэтым чорным коле пры жаданні можна прачытаць абрысы сімвалаў чатырох евангелістаў, вырашаных лінейна, фрагментарна і, як мне ўяўляецца, архаічна-наіўна. Гэты сімвал адкрываецца гледачу паступова — праз светлавы прамень, які павольна «засвойвае» ягоную паверхню і набірае моц.

У вырашэнні касцюмаў я шукала такую канструкцыю, якая пры дапамозе колеру і дэталяў лёгка пераўтваралася б у плашч інквізітара, у бедную вопратку валацугі-прасталюдзіна, у шыкоўную сукенку багатай прыгажуні ці ў латы воіна-вартаўніка.

Касцюмы ў гэтым спектаклі не павінны апрануць персанажаў адпаведна тагачаснай модзе. Касцюм тут належыць успрымаць як Знак вобраза, як носьбіт сацыяльнай, а ў большай ступені — псіхалагічнай характарыстыкі персанажа. Колеравае вырашэнне спектакля таксама накіравана на псіха-эмацыйнае ўздзеянне. Яго семантычнае напаўненне можна было б умоўна ахарактарызаваць такімі кантраснымі паняццямі, як чысты-брудны, танны-раскошны, сталы-падлеткавы і г.д.

А калі казаць увогуле — я чытала гэты раман, як паўсцёртую мініяцюру сярэднявечнага летапісу — грубаватую і арыстакратычную, неадназначную і наіўную адначасова, і паспрабавала данесці свае ўражанні і пачуцці праз сінтэз пластыкі, фактуры, колеру і святла, праз сваё суб'ектыўнае ўспрыняцце падзей далёкага XVI стагоддзя.

## Юрась БАРЫСЕВІЧ:

Містэрыя — адзін з найстаражытнейшых жанраў заходнееўрапейскага тэатра, які быў вядомы і ў Вялікім княстве Літоўскім. Паводле «Слоўніка тэатра» Патрыса Паві, гэта драма на сюжэты з Бібліі, а таксама Евангелляў або жыццяпісаў святых, якую падчас рэлігійных фэстаў ігралі акцёры-аматары (мімы, жанглёры) пад кіраўніцтвам чытальніка, які «адкрытым тэкстам» злучаў асобныя эпізоды. І дзейства, якое адбылося ў адной з лекцыйных аўдыторый педуніверсітэта на 76-я ўгодкі БНР (ці трэба казаць аб культавым успрыняцці гэтай даты і творчасці самога Караткевіча нашымі адраджэнцамі?), сапраўды мела шмат агульных рысаў з містэрыяй — і ў сцэнаграфіі, і ў рэжысуры.

Аўтары спектакля наўмысна адмовіліся ад надта прасторнай актавай залы дзеля больш шчыльнага кантакту з публікай (гледачоў было каля дзвюх соцень, і сярод іх — сястра пісьменніка Наталля Бычкоўская). Паводле сцэнічнай інтэрпрэтацыі рамана, якую здзейснілі Алена і Юрась Чарэнкі, гледачы павінны былі стаць «масоўкай» містэрыі, выконваць ролю натоўпу на рынкавай плошчы сярэднявечнага горада. Сцэна, фактычна, растварылася ва ўсёй прасторы тэатра: акцёры з'яўляліся не толькі з-за кулісаў, але і з бакавых дзвярэй, і аднекуль з-за спінаў гледачоў, абменьваліся рэплікамі літаральна над нашымі галовамі.

Увесь спектакль быў прасякнуты духам містычнага рытуалу: мы адчувалі сябе сведкамі новага прышэсця не толькі Хрыста (як удзельнікі пастаноўкі — «гарадзенскія месцічы»), але і Караткевіча (як госці імпрэзы). Увогуле, спектакль атрымаўся багаты на падвоеныя сэнсы і тэатральныя прыёмы, бо ледзь не кожны іграў адразу двух персанажаў: сярэднявечнага і новазапаветнага. Найбольш складаную, патроеную ролю — «вядучага» містэрыі, Іуды і самога Іосіі Бен-Раввуні — іграў артыст Сяргей Пляскач. Напэўна, таму ён на загрыміраваны твар часам апранаў яшчэ і маску: атрымліваўся тэатр нават не ў квадраце, а ў кубе. Таксама часта скрозь цемру з глыбіні залы акцёраў залівяў святлом моцны пражэктар — і мы назіралі тады два паралельныя спектаклі: у чалавечых целах і ў бясплотных ценях на задніку сцэны. Магчыма, таму лаканічныя, нават аскетычныя дэкарацыі выглядалі так натуральна для гэтай пастаноўкі: напрыклад, прыціснутыя да столі фіранкі пераўтварылі яе, нібыта аблокі, у неба. На мой погляд, аўтары спектакля досыць блізка падышлі да эстэтычнага ідэалу славутага Антанена Арто, які казаў: «Не павінна ўвогуле быць аніякіх дэкарацый. Для здзяйснення іхніх функцый даволі будзе персанажаў-іерогліфаў».

Шматпланавы раман Уладзіміра Караткевіча, безумоўна, можа мець дзесяткі іншых сцэнічных інтэрпрэтацый. Ужо гэтая — першая — засведчыла ягоную «эстэтычную адкрытасць»: спалучэнне ўжо класічнага літаратурнага твора з мастацкімі сродкамі авангарднага тэатра не перашкодзіла таму, каб Хрыстос у гэты вечар прызямліўся не толькі ў Гародні, але і ў нашых душах.



*На здымках:*

1. Юрась Братчык і Марына Крывіц (Хрыстос і Магдаліна) — Ігар Кортэль і Наталля Пшанічная.

2. Іосія Бен-Раввуні (Іуда) — Сяргей Пляскач.

Фота Уладзіміра ЖУКАВА.

# НЯМА ЗАКОНУ — НЯМА ПРАБЛЕМЫ?

На пачатку траўня ў Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя пад назваю «Закон аб друку ва ўмовах станаўлення дэмакратыі». Наладжана яна была няўрадавым «Мас-Медыя Цэнтрам» пры падтрымцы фонду Сораса-Беларусь і Фрыдам Форуму (Freedom Forum). У канферэнцыі бралі ўдзел беларускія журналісты, карэспандэнты замежных выданняў, акрэдытаваныя ў Беларусі, юрысты, грамадскія дзеячы. Міністэрства культуры і друку прадстаўляў намеснік міністра Іван Карэнда. Парламенцкія камісіі па сродках масавай інфармацыі Беларусі і Украіны адпаведна прадстаўлялі Анатоль Вярцінскі (намеснік старшыні Камісіі) і Уладзімір Гарабцоў. Не было на канферэнцыі толькі афіцыйных прадстаўнікоў Саюза журналістаў Беларусі, хоць запрашэнне на свой адрас кіраўніцтва саюза атрымала...

Магчыма, тут быў просты збег абставін. У дзень адкрыцця канферэнцыі, калі адзначаўся сусветны Дзень свабоды друку, Саюз журналістаў урачыста падводзіў вынікі конкурсу «Залатое пяро». А можа, сама тэма канферэнцыі падалася неактуальнай ва ўмовах, калі беларускія газеты, нават тыя, што атрымліваюць датацыі ўрада, змагаюцца за сваё выжыванне?

Як вядома, у Беларусі дагэтуль няма свайго Закону аб друку. Фармальна дзейнічае закон Саюза ССР, прыняты яшчэ ў 1990 годзе. Праўда, на думку амерыканскіх гасцей, якую, у прыватнасці, выказаў дырэктар Амерыканскага цэнтра журналістыкі ў Будапешце, прафесар Рэй Хэберт, лепш не мець аніякага закону, чым законы, што нейкім чынам абмяжоўваюць свабоду слова. Гэтае права гарантуецца Канстытуцыяй ЗША. Але ж амерыканскай Канстытуцыі ўжо больш за 200 гадоў. Новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — усяго некалькі месяцаў.

На думку старшыні Польскага камітэта па рэформах вяшчання, пасля ліквідацыі камуністычнай сістэмы зусім не адразу прыходзіць дэмакратыя. Працэс дэмакратызацыі — доўгі працэс. І самае цяжкае ў гэтым працэсе для сродкаў масавай інфармацыі — адвучыцца ад спадзяванняў на дзяржаву як на «добрага дзядзьку». Дзяржава таксама павінна адмовіцца ад палітыкі патэрналізму ў адносінах да СМІ.

За органамі дзяржаўнай улады павінна заставацца толькі прававое рэгуляванне, якое б забяспечыла роўныя стартавыя магчымасці для ўсіх выданняў, тэле- і радыёпраграм.

Беларускі парламент прыняў у першым чытанні Закон аб друку. Але гэты законапраект не цалкам адпавядае Канстытуцыі, якая забараняе цэнзуру, манапалізацыю сродкаў масавай інфармацыі. Сябра Асацыяцыі адвакатаў Вольга Помар з ЗША прадставіла на канферэнцыі агляд і аналіз законаў аб друку ЗША і Беларусі. У аглядзе, у прыватнасці, адзначаецца, што беларускі закон дапускае надта шырокі кантроль урада за дзеяннямі прэсы, патрабуе ліцэнзавання, дапускае скасаванне права на публікацыю і нават цэнзуру. Урадавыя датацыі сродкам масавай інфармацыі таксама могуць разглядацца як своеасаблівая форма цэнзуры, калі гэтыя датацыі выдзяляюцца ў залежнасці ад зместу публікуемай інфармацыі.

Дарэчы, на канферэнцыі адзначалася, што Міністэрства інфармацыі (цяпер — Мінкультдрук) Беларусі не адмовіла ў рэгістрацыі яшчэ ніводнаму выданню. Толькі незалежных тэлепраграм зарэгістравана сёння звыш 200 (!). Іншая справа, што пераважная большасць іх у эфір не выходзіць і наўрад ці выйдзе. Бо трэба яшчэ атрымаць ліцэнзію на вяшчанне ў Мінсувязі, якому належаць усе тэле- і радыёстанцыі, а таксама перадатчыкі. Гэта да пытання аб забароне на манапалізацыю СМІ.

Яшчэ адзін важны аспект, які абмяркоўваўся на канферэнцыі — правы і абавязкі журналістаў. Жывым прыкладам парушэння права журналіста на збор інфармацыі, яе інтэрпрэтацыю і права выказваць сваю думку быў адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў форуму — Аляксандр Старыкевіч, які дагэтуль не можа атрымаць акрэдытацыю ў Беларусі ў якасці карэспандэнта «Известий». Калі беларускага журналіста цягалі па судах урадавыя чыноўнікі, фактычна вымусіўшы яго ў рэшце рэшт шукаць прыбежышча ў суседняй дзяржаве, ніводная шматтыражная газета не выступіла ў яго абарону. Пазіцыю назіральнікаў займала і большасць калег-журналістаў. Факт наколькі сумны, настолькі характэрны для нашага часу.

Канешне, журналісты не павінны быць нейкай замкнёнай у сабе прывілеяванай кастай. Не можа быць асаблівай журналісцкай этыкі, адрознай ад агульначалавечай. Але ж вельмі цяжка даецца грамадству разуменне таго, што дэмакратычны закон аб друку, безумоўнае права на атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі, патрэбна найперш не журналістам, а тым, дзеля каго яны працуюць, — самому грамадству.

Безумоўна, сам па сабе закон, нават дасканалы, яшчэ не гарантуе яго выкананне, павагу да элементарных правоў чалавека. Старшыня Камітэта абароны журналістаў Алег Панфілаў з Масквы расказаў аб тым, што ў Таджыкістане, дзе дзейнічае цудоўны Закон аб друку, за апошнія паўтара гады забіты 33 журналісты, закрыты больш за 30 газет.. Ёсць, так бы мовіць, і больш блізкі прыклад. На Украіне, дзе таксама прыняты закон, быў выпадак, калі журналісту за серыю публікацый было забаронена ў судовым парадку паўгода займацца сваёй прафесіяй. У беларускага друку, зразумела, свая спецыфіка. І, магчыма, Закон аб друку сёння многім уяўляецца не самым актуальным. Але ж нездарма кажуць, што мас-медыя робіць прэзідэнтаў. У цяперашніх умовах можна сказаць і інакш: якая ў Беларусі прэса, такі будзе і яе першы Прэзідэнт.

**Віталь ТАРАС,**
**карэспандэнт «Общей газеты»,**
**спецыяльна для «Культуры».**

# ДЭМАГОГІЯ Ў СЭНСАВЫМ ВІНЕГРЭЦЕ



Здаецца, ужо ўсе ўсвядомілі і пагадзіліся, што мы жылі і жывем у дзяржаве з дэфармаванымі, перавернутымі і падмененымі ўяўленнямі. Што гаворым — адно, думаем — другое, робім — трэцяе. Але спадзявацца на тое, што пачнем называць рэчы і дзеянні сваімі імёнамі, пакуль што вельмі рана. Больш таго, кожны дзень у гэтых адносінах не дадае аптымізму. Хутчэй наадварот. Бо па-ранейшаму некаторыя лічаць за лепшае памыляцца, а многія — наўмысна ўводзяць у зман іншых. Па-ранейшаму эмоцыямі і паводзінамі большасці кіруе нічым не абгрунтаваная перадузятасць. Інакш чым можна растлумачыць, што так упарта не жадаем бачыць розніцу паміж такімі паняццямі, як «фізкультура» і «спорт», «трэніраванасць» і «здароўе», «доўг (абавязак)» і «добразычлівасць, міласэрнасць», «медыцына» і «ахова здароўя», «нетрадыцыйны» і «альтэрнатыўны», «традыцыйны» і «афіцыйны».

Справа не столькі ў тым, што сацыяльная дэмагогія многім яшчэ вельмі на руку, колькі ў спрадвечным дэфіцыце ў насельніцтва культуры наогул і адукаванасці ў прыватнасці. Асабліва ў тых, каму самім лёсам наканавана сеяць у народзе «разумнае, добрае, вечнае».

А хадзіць за прыкладамі далёка не прыходзіцца. Вось даволі папулярная газета, вядомая сваёй асцярожнасцю, памяркоўнасцю, узважанасцю меркаванняў журналістаў, шчырым жаданнем супрацоўнікаў рэдакцыі ў наш жорсткі час дапамагчы чытачам набыць здароўе больш даступнымі для іх «нетрадыцыйнымі» таннымі спосабамі і «натуральнымі» сродкамі. Толькі ў іх нейкі дзіўны плюралізм у адносінах да медыцыны, аховы і ўмацавання здароўя: на старонках газеты разам з інтэрв'ю і парадамі знакамітых вучоных-медыкаў рэспублікі публікуюцца разважанні не менш вядомых экстрасэнсаў, «народных лекараў» і іншых прыхільнікаў нетрадыцыйных і альтэрнатыўных спосабаў лячэння.

Але ва ўсім гэтым сэнсавым вінегрэце відавочна адчуваецца цяга супрацоўнікаў газеты менавіта да апошніх. У рэшце рэшт, гэта іх асабістая, індывідуальная справа. Але навошта звальваць усё ў адну кучу, змешваць божы дар з яешняй і распаўсюджваць сваю блытаніну сярод насельніцтва?

У апошні час ва ўсім свеце становіцца ўсё больш папулярным такі ашчадны дыягнастычны і хірургічны метад лячэння, як лапараскапія. На адной са старонак газеты спецыяліст у гэтай галіне паспрабаваў пазнаёміць чытачоў з самім метадам, адзначыць паказанні і процілаказанні да яго прымянення. Здавалася, вельмі добрую справу робіць газета, публікуючы гэты матэрыял. Аднак — пад якой «шапкай»?! Загаловак «Альтэрнатыва вялікай хірургіі» — набрана вялікімі літарамі над сціплым двухкалонкавым тэкстам.

Так, прыгожае і моднае слова «альтэрнатыва». Але што яно азначае? Паглядзім у «Словарь иностранных слов» (16-е выданне, выпраўленае. М.: Рус.яз., 1988). «Альтэрнатыва, — тлумачыцца ў «Слоўніку», — ад лацінскага «альтэр», адзін з двух — 1: неабходнасць выбару паміж узаемавыключаючымі магчымасцямі; 2: кожная з выключаючых адна другую магчымасцей».

Такім чынам, калі ідзе гаворка пра «традыцыйныя», «афіцыйныя», «экстрасэнсавыя» і іншыя «нетрадыцыйныя» метады лячэння, то гэтае слова на месцы. Але ж лапараскапія ўзнікла і развіваецца не насуперак, а дзякуючы развіццю вялікай хірургіі ды оптыцы. У яе ніколі не было і не будзе магчымасцей вялікай хірургіі і яна не будзе антыподам апошняй. Навошта ж уносіць блытаніну ў галовы чытачоў? Ці не лепш спачатку самім разабрацца ў справе як след?

У іншым нумары газеты змешчана невялічкае, у шэсць радкоў паведамленне, што нейкі ўрач «дзіўным спосабам» падтрымаў бастуючых і абвясціў пацыентам аб тым, што на прыём змогуць трапіць толькі тыя хворыя, якім патрэбна хуткая медыцынская дапамога. «А як жа клятва Гіпакрата?» — задаецца газета пытаннем-загалоўкам, набраным вялікімі літарамі. А пры чым тут гэтая славутая і тысячы разоў марна памянёная клятва? Яна ж ужо з 30-х гадоў не мае ніякай этычнай і юрыдычнай сілы на тэрыторыі былога Саюза. Ды і ў «Прысязе ўрача Савецкага Саюза», зацверджанай Прэзідыумам ВС СССР у 1971 годзе, няма ніводнага слова аб тым, што ўрач абавязаны губляць свае правы чалавека і сваю годнасць спецыяліста толькі таму, што гэта некаму перашкаджае карыстацца ім як анучкай.

Як бачым, неадукаванасць, памножаная на дэмагогію (развражанні і патрабаванні, якія заснаваны на груба аднабаковым асэнсаванні, тлумачэнні чаго-небудзь. — Словарь русского языка. М.: Рус.яз., 1981, т.1), можа завесці вельмі далёка.

Колькі ж мы будзем блукаць сярод трох соснаў, каб нарэшце знайсці выйсце да сапраўднай культуры і цывілізацыі?! Ці не час усім нам, асабліва дзеячам культуры, пачаць па кроплі выціскаць з сябе не толькі раба, але і гэтыя брыдкія якасці?

**Генадзь ШЭРШАНЬ.**



**Нагадваем нашым чытачам, што да канца падпісной кампаніі засталося ўсяго тры тыдні. Калі Вы не падпісаліся на газету «Культура» на трэці квартал, дык мо скарыстаецеся жартаўлівай парадай нашага чытача. Ён даслаў у рэдакцыю свой асаблівы ліст-рэкламу (праўда, па-руску, бо, як піша аўтар, беларускай мовай яшчэ дасканала не валодае), і мы вырашылі, у парадку выключэння, яго надрукаваць. Наш чытач заклікае:**

*Нам не нужна реклама «Вискас»*
*Девиз сейчас — ДАЕШЬ ПОДПИСКУ!!!*
*Читатель, клуб, номенклатура —*
*Бегом на почту — за «КУЛЬТУРОЙ»!*
*Не «Сникерс» ешь или сосиску,*
*А оформляй быстрей подписку!*
*Бутылки сдай, макулатуру и...*
*Подпишись все ж на «КУЛЬТУРУ»!*

**Шаноўныя сябры газеты!**
**Дастаткова толькі заплаціць 2400 рублёў, і на працягу трох месяцаў у Ваш дом кожны тыдзень будзе завітваць «Культура»!**




## з 25 па 29 мая

### Серада, 25 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Пад купалам Сусвету.
**8.20.** Надвор'е.
**8.30.** Пяць хвілін на жарты.
**8.35.** «Справа былая...», «Будзь маім сланом». Мультфільмы.
**9.00.** Тэлебачанне — школе. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.
**9.30.** Аэробіка.
**10.05.** Песню бярыце з сабою. Клецкі раён. Частка 2-я.
**11.25.** Футбол. Таварыскі матч. Алімпійская зборная Беларусі — алімпійская зборная Украіны.
**13.30.** Навіны.
**13.40.** «Два клёны». Мультфільм.
**14.20.** Відзьма-нявідзьма.
**15.20.** «Руіны страляюць...» Маст. фільм. 3-я і 4-я серыі.
**17.30.** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40.** Кубак Беларусі па культурызму.
**18.10.** Абласныя навіны (Гомель).
**18.25.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Футбол. Таварыскі матч. Зборная Украіны — зборная Беларусі. У перапынку (19.45) — Калыханка.
**20.50.** Кантакт.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** Пяць хвілін на жарты.
**21.50.** «Карамболь». Ток-шоу з удзелам народнага мастака Беларусі Г.Вашчанкі.
**22.25.** Стоп-кадр. Крымінальная хроніка.
**22.40.** Надвор'е.
**22.50.** «Дзесяць хвілін плюс стагоддзе». Перадача 4-я.
**23.00.** «Патоп». Маст. фільм. 1-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15.** Ранішняя размінка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.55. Навіны.
**8.20.** Даміcолька.
**8.35.** «Сабака, які ўмеў спяваць». Маст. фільм. 1-я серыя.
**9.40.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**10.30.** Джэм.
**11.20,** 22.45. Прэс-экспрэс.
**11.30.** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**14.25.** Прадпрымальнік.
**15.20.** «Прыгоды Тома Сойера».
**15.50.** Джэм.
**16.20.** Мультфільм «Лятаючы дом».
**16.50.** Загадка СБ.
**17.25.** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**17.55.** «Раскол». Маст. фільм. 8-я серыя.
**18.55.** Чалавек не з тусоўкі. Аўтарская праграма Э.Разанава.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.45.** Вагон 03.
**20.55.** У пошуках страчанага.
**21.35.** Маст. фільм «Настасся — загадка Ганны» (ЗША). 1-я серыя.
**23.05.** Жыццяпіс.
**23.35.** Востраў. Музычная эксперыментальная праграма.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**6.20.** Патрабуюцца...
**6.30.** Формула 730.
**7.00.** Час дзелавых людзей.
**7.30.** «Снеданне для чэмпіёнаў».
**8.00.** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.30.** Ранішні канцэрт.
**8.45.** «Санта-Барбара».
**9.35.** Тэлегазета.
**9.40.** Сялянскае пытанне.
**15.20.** Студыя «Рост».
**15.50.** Там-там навіны.
**16.05.** М-трэст.
**16.20.** «Далёкі Усход».
**17.05.** Іванаўскі кумір.
**17.20.** «Жанчыны свету» (ЗША).
**17.45.** Свята кожны дзень.
**17.55.** Рубяжы.
**18.10.** L-клуб.
**19.25.** Падрабязнасці.
**19.35.** «Санта-Барбара».
**20.25.** Ніхто не забыты.
**20.30.** Рэпарцёр.
**20.45.** Шостае пачуццё.
**21.20.** На палітычным Алімпе.
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** «З каханымі не разлучайцеся». Маст. фільм.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45.** Чароўная лінія.
**8.00.** «Чорная курыца». Мультфільм.
**8.20.** Кідайка.
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.20,** 11.40, 15.40. Музычны момант.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** Кірмаш вакансій.
**11.15.** Мультфільм.
**11.25.** З-за вострава на стрыжань.
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
**11.45.** Чароўная лінія.
**15.45.** Урок нямецкай мовы.
**16.05.** «Крыжыкі-нулікі». Гульня для старшакласнікаў.
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.10.** Армія Расіі.
**17.40.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50.** Спорт.
**19.05.** Будні.
**19.20.** Тэлемагазін.
**19.25.** Рэтраспектыўны экран. П.Гамара. «Забойцу — Ганкураўскую прэмію». Тэлеспектакль.
**22.00.** Спартыўныя навіны.
**22.10.** Ваш стыль.
**22.20.** Фестываль кінастудыі «Выбар».

### Чацвер, 26 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Пяць хвілін на жарты.
**8.15.** Пад купалам Сусвету.
**8.25.** Надвор'е.
**8.35.** «Патоп». Маст. фільм. 1-я серыя.
**10.30.** «Дзесяць хвілін плюс стагоддзе». Перадача 4-я.
**12.30.** «Партрэт, напісаны голасам». Фільм-канцэрт.
**13.30.** Навіны.
**15.30.** I міжнародны конкурс юных піяністаў імя І.А.Цвятаевай (г.Барысаў).
**16.20.** «Руіны страляюць...» Маст. фільм. 5-я серыя.
**17.30.** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40.** «І не пакіну цябе...» Міжнародная праграма міласэрнасці.
**18.10.** Абласныя навіны (Гродна).
**18.25.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.05.** Актуальнае інтэрв'ю. Прымае ўдзел намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В.Г.Ціхіня.
**19.30.** «Медінфа» паведамляе... Праблемы якасці прадуктаў харчавання.
**19.40.** Партрэт на фоне часу. Сумеснае абутковае прадпрыемства «ОТиКА» (г.Мінск).
**20.10.** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**20.25.** Пяць хвілін на жарты.
**20.30.** Кантакт.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** «Патоп». Маст. фільм. 2-я серыя.
**22.35.** Надвор'е.
**22.45.** Дак. фільм «Валянцінаў дзень».
**23.05.** НІКа.
**23.20.** «Патоп». Маст. фільм. 3-я серыя.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15.** Ранішняя размінка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 22.55. Навіны.
**8.20.** «Сабака, які ўмеў спяваць». Маст. фільм. 2-я серыя.
**9.30.** У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
**10.10.** ...Да 16 і старэйшым.
**10.50,** 22.45. Прэс-экспрэс.
**11.20.** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**14.25.** Прадпрымальнік.
**15.05.** Як дабіцца поспеху.
**15.20.** «Прыгоды Тома Сойера».
**15.50.** Канцэрт інструментальнай музыкі.
**16.10.** ...Да 16 і старэйшым.
**16.50.** Тэхнадром.
**17.25.** Планета. «Ва ўсіх на вуснах».
**17.55.** «Раскол». 9-я серыя.
**18.55.** Кінапанарама.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.45.** Лато «Мільён».
**21.15.** «Ад Лешчанкі да Лешчанкі». Музычная праграма.
**23.00.** Футбол. Таварыская сустрэча. Зборная Даніі — зборная Швецыі.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**6.20.** Патрабуюцца...
**6.30.** Формула 730.
**7.00.** Час дзелавых людзей.
**7.30.** Сем нот у цішыні.
**8.00.** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25.** Чароўны куфэрачак.
**8.35.** Паехалі.
**8.45.** «Санта-Барбара».
**9.35.** Тэлегазета.
**9.40.** Сялянскае пытанне.
**15.20.** Студыя «Рост».
**15.50.** Там-там навіны.
**16.05.** «Штрыхі да партрэта».
**16.50.** Мульці-пульці.
**17.00.** Будні.
**17.45.** Свята кожны дзень.
**17.55.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**18.25.** Свая гульня.
**19.25.** Падрабязнасці.
**19.35.** «Санта-Барбара».
**20.25.** «Настальжы».
**21.00.** Звычайная справа.
**21.20.** Айчына мая. «Пераўтварэнне».
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** Экран крымінальных паведамленняў.
**23.05.** Бенефіс прымы-балерыны Марыінскага тэатра Іны Зубкоўскай.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45.** Чароўная лінія.
**8.05.** Мультфільмы.
**8.40.** Дзецям пра зверанят.
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.20,** 11.40, 15.40. Музычны момант.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** «О-ля-ля» прадстаўляе праграму: «Уся справа ў капелюшы».
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
**11.45.** Чароўная лінія.
**15.45.** Падарожжа па Усходзе.
**16.05.** «Урок музыкі». Мультфільм.
**16.15.** «Там, дзе жыве Павуціныч».
**16.25.** Сёння і штодзённа.
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.10.** Чалавек на зямлі.
**17.40.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50.** Спорт.
**19.05.** Будні.
**19.20.** Тэлемагазін.
**19.25.** «Ластаўкі і верабей». Маст. фільм.
**20.50.** Ваш стыль.
**21.00.** Блеф-клуб.
**22.00.** Спартыўныя навіны.
**22.10.** Футбол. «Змена-Сатурн» (Санкт-Пецярбург) — «Асмарал» (Масква).
**22.55.** «Вячэрні звон». (22.55) — «Рокс-галактыка»; (23.10) — Парад парадаў; (23.40) — Шлягер-94.

### Пятніца, 27 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Дзелавая хроніка.
**8.20.** Пад купалам Сусвету.
**8.30.** Надвор'е.
**8.40.** Пяць хвілін на жарты.
**8.45.** Урокі здароўя.
**9.10.** «Патоп». Маст. фільм. 2-я серыя.
**10.00.** «І не пакіну цябе...» Міжнародная праграма міласэрнасці.
**10.30.** «Патоп». 3-я серыя.
**11.50.** «Карамболь». Ток-шоу з удзелам народнага мастака Беларусі Г.Вашчанкі.
**13.30.** Навіны.
**13.40.** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**13.55.** «Я помню дзіўнае імгненне...» Фільм-канцэрт.
**14.45.** «Азонавы слой». Тэленарыс пра настаўніка геаграфіі А.У.Пракоф'ева.
**15.20.** ПІК.
**16.00.** Майстэрня. Г.Буралкін.
**16.15.** «Руіны страляюць...» Маст. фільм. 6-я серыя.
**17.30.** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40.** «Жыццепадзел». Тэленарыс пра паэта К.Жука.
**18.00.** Дзелавая хроніка.
**18.10.** Абласныя навіны (Магілёў).
**18.25.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Навошта дадзена ўлада? Партызанскі раён Мінска: праблемы мясцовага самакіравання.
**19.45.** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Так гэта было...» Расказвае І.П.Антонаў, былы батальённы ваенфельчар.
**20.15.** Студыя «Тэлесябрына». Падарункі на добры настрой.
**20.25.** Пяць хвілін на жарты.
**20.30.** Кантакт.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** «Патоп». Маст. фільм. 4-я серыя.
**22.55.** Надвор'е.
**23.05.** Рэйтынг.
**23.20.** НІКа.
**23.35.** «Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя». Маст. фільм.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15.** Ранішняя размінка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** «Дзяўчынка і леў». Мультфільм.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
**8.20.** Сарока.
**8.40.** «Замочак з сакрэтам». Мультфільм.
**9.00.** Тэлешоу «50 x 50».
**10.20.** Амерыка з М.Таратутам.
**10.50,** 0.35. Прэс-экспрэс.
**11.20.** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**11.50.** Футбол. Зборная Даніі — зборная Швецыі.
**14.25.** Прадпрымальнік.
**14.50.** Бізнес-клас.
**15.05.** Фільм—дзецям. «Шуры-муры».
**15.35.** Алеся і кампанія.
**16.05.** Дак. фільм «...З іншага боку...»
**16.50.** Азбука ўласніка.
**17.25.** Навіны культуры.
**17.40.** Чалавек і закон.
**18.10,** 20.35. Надвор'е.
**18.15.** Амерыка з М.Таратутам.
**18.45.** Поле цудаў.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.45.** «Погляд» з А.Любімавым.
**21.35.** Маст. фільм «Дэн Огаст» (ЗША). Фільм 5-ы.
**22.35.** Чалавек тыдня.
**23.10.** Музагляд.
**23.50.** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**0.20.** Аўта-шоу.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**6.20.** Патрабуюцца...
**6.30.** Формула 730.
**7.00.** Час дзелавых людзей.
**7.30.** Клуб «Жоўтая падводная лодка».
**8.00.** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25.** Чароўны куфэрачак.
**8.35.** Паехалі.
**8.45.** «Санта-Барбара».
**9.35.** Тэлегазета.
**9.40.** Сялянскае пытанне.
**10.10.** Момант ісціны.
**15.20.** Студыя «Рост».
**15.50.** Там-там навіны.
**16.05.** Ваенны кур'ер.
**16.20.** Новая лінія. «Жыццё без жорсткасці».
**16.50.** Дысней па пятніцах. «Тайна згубленай даліны». 1-я серыя.
**17.45.** Свята кожны дзень.
**17.55.** «Памяць сэрца». Эстрадная праграма.
**18.45.** Кінамарафон.
**19.25.** Падрабязнасці.
**19.35.** «Імперыя страсці». Маст. фільм (Японія—Францыя).
**21.20.** «Пацалунак у дыяфрагму».
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** «Фамільныя каштоўнасці». Маст. фільм (Італія).

**Санкт-Пецярбург**

**7.45.** Чароўная лінія.
**8.00.** «Квартэт ква-ква». Мультфільм.
**8.10.** Па сакрэту ўсяму свету.
**8.25.** Там, дзе жыве Павуціныч.
**8.40.** Сёння і штодзень.
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.15.** Тэлемагазін.
**10.20,** 11.40, 15.40. Музычны момант.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** «Сярэбраная ніць».
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
**11.45.** Чароўная лінія.
**15.45.** «Старадаўні ядловец». Тэлефільм.
**16.05.** Залаты ключ.
**16.15.** «Казка за казкай». «Пра тое, як царэвіч Елісей па чароўныя ягады хадзіў».
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.00.** «Палац Марлі». Тэлефільм.
**17.10.** Новы Пецярбург.
**17.40.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50.** Спорт.
**19.05.** Будні.
**19.20.** Тэлемагазін.
**19.25.** Дом адкрытых сэрцаў.
**19.55.** «Эй, людзі!» Тэлеспектакль па матывах твораў У.Сараяна.
**21.10.** Тэатральная правінцыя?
**22.00.** Спартыўныя навіны.
**22.10.** Ваш стыль.
**22.20.** Анталогія зарубежнага кіно. «Жаночая тайна» (ЗША).

### Субота, 28 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.15.** Пад купалам Сусвету.
**8.25.** «Патоп». Мастацкі фільм. 4-я серыя.
**9.35.** «Роднаму слову» — 15 гадоў.
**10.15.** Паказвае Гродна.
**11.15.** Тыдзень планеты.
**11.30.** «Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя!» Мастацкі фільм.
**13.05.** «Сталіца». Тэлечасопіс.
**13.25.** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Дарогамі Перамогі.
**13.55.** Паміж намі, жанчынамі... Свята ружовай кветкі ў Доме ветэранаў у Мінску. Перадача 2-я.
**14.40.** «Мой маленькі поні». Мультфільм.
**15.10.** Абрыс. «Што хвалюе эколагаў». Акадэмічныя нататкі.
**15.45.** «Усе мы родам з дзяцінства» (Віцебск і Віцебская вобласць). Частка 1-я.
**17.15.** КВЗ-шоу-94.
**19.00.** «Чарапашкі ніндзя».
**19.35.** «Нов і К» — топ-10.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** Пяць хвілін на жарты.
**21.50.** «Зоркі» на экране. «Разарваны круг».
**23.20.** НІКа.
**23.35.** «Каскад». Спадарожнікавыя антэны.
**23.50.** Відзьма-нявідзьма.

**Канал «Астанкіна»**

**6.20.** Ранішняя размінка.
**6.35.** Суботняя раніца дзелавога чалавека.
**7.10.** У свеце матораў.
**7.45.** Слова пастыра.
**8.00.** «Марафон-15» — малышам.
**8.30.** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**9.55.** Ранішняя пошта.
**10.25.** Смак.
**10.40.** Медыцына для цябе.
**11.10.** «Яго вялікасць футбол». Дак. фільм.
**11.40.** Кінапраўда? «Вялікае жыццё».
**13.35.** У Аджары не страляюць.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Мультфільм «Таямнічы свет Ог» (Аўстралія). 2-я серыя.
**14.55.** Тайны Старой плошчы. «Вайна ў Карэі». Частка 2-я.
**15.25.** У свеце жывёл.
**16.05.** Жывое дрэва рамёстваў.
**16.10.** Цудоўная сямёрка.
**17.00.** Адкрыццё фестывалю «Кінатаўр».
**17.50.** Да і пасля...
**18.45.** Маст. фільм «Нешта з іншага свету» (ЗША). 1-я серыя.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны плюс.
**20.35.** Надвор'е.
**20.45.** «Нешта з іншага свету» (ЗША). 2-я серыя.
**21.35.** Што? Дзе? Калі?
**23.40.** «Каго люблю — таму дару». Творчы вечар Л.Рубальскай. У перапынку (23.10) — Навіны; Надвор'е.

**Канал «Расія»**

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**7.25.** Прэзентацыя праграм Шведскага тэлебачання на Расійскім тэлебачанні.
**7.30.** Мультфільм.
**8.10.** Студыя «Рост».
**8.40.** Парламенцкі тыдзень.
**9.10.** Непазнаны Сусвет.
**9.40.** Пілігрым. Расійскае бюро падарожжаў.
**10.25.** Зваротны адрас.
**11.10.** Стырнавая кніга. Малюнкі Ф.Дастаеўскага да рамана «Ідыёт».
**11.40.** Мір і вайна.
**12.10.** Казырная дама.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.20.** Дак. фільм «Расія маладая». 6-я серыя.
**14.20.** Футбол без граніц.
**15.05.** Пецярбургскія гісторыі.
**15.35.** Вуснамі дзіцяці.
**16.05.** Свята кожны дзень.
**16.15.** Валейбол. Сусветная ліга. Расія—Італія.
**17.00.** Прэзентацыя вечара Шведскага тэлебачання на Расійскім тэлебачанні.
**17.05.** «Спадар Дынаміт». Дак. фільм.
**17.50.** «Прынамсі, надвор'е было цудоўным». Кінакамедыя.
**19.25.** Тэлефільм Інгмара Бергмана «Благаславенныя».
**20.55.** Канцэрт групы «Абба» (Шведскае ТБ).
**21.45.** Валейбол. Сусветная ліга. Расія—Італія.
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** Праграма «А».
**23.55.** «Захад». Мастацкі фільм.

**Санкт-Пецярбург**

**7.30.** Чароўная лінія.
**7.45.** «Дзень нараджэння». Мультфільм.
**8.00.** Дом кіно. «У пошуках страчанага часу».
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «Вячэрні звон» у ранішнім эфіры.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** Канцэрт па заяўках.
**11.30.** Тэледоктар.
**11.45.** Чароўная лінія.
**12.00.** «Прыгоды Яраслава Гашэка ў апавяданнях Іосіфа Швейка». Дак. фільм; «Новыя прыгоды Швейка». Маст. фільм.
**13.35.** Па сакрэту ўсяму свету.
**13.50.** «Чорны бусел». Мультфільм.
**14.00.** Храм.
**14.45.** Спартыўны агляд.
**15.15.** Вынікі XX стагоддзя.
**16.00.** Дзецям пра зверанят.
**16.15.** Казка за казкай.
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.10.** Аўтапілот.
**17.15.** Крымінальнае дасье.
**17.35.** «Пецярбург» Андрэя Белага», «Падарожжа ў Каломну». Тэлефільмы.
**18.10.** Экспрэс-кіно.
**18.30,** 21.45. Інформ ТБ.
**18.55.** Тэлемагазін.
**19.00.** Ж.Ануй. «Томас Бекет». Тэлеспектакль.
**22.00.** Ваш стыль.
**22.10.** «Дарога дамоў». Мастацкі фільм.

### Нядзеля, 29 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Пад купалам Сусвету.
**8.20.** Пяць хвілін на жарты.
**8.25.** Слова да чалавека.
**8.55.** «Чарапашкі ніндзя».
**9.25.** MTV. Лепшыя хіты.
**9.55.** «Зоркі» на экране. «Разарваны круг».
**11.25.** Аэробіка.
**12.00.** Нядзельнае тэлекафэ «Мая мама».
**12.45.** ABC-клуб. Англійскую мову вучым самі.
**13.00.** Вяскоўцы. Рубельская вясна. Столінскі раён.
**13.30.** Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб.
**14.20.** Тэлекрама.
**14.35.** Беларусы ў Амерыцы. Перадача 8-я.
**15.05.** «Усе мы родам з дзяцінства» (Віцебск і Віцебская вобласць). Частка 2-я.
**16.35.** Тэлеклуб «Гаў-гаў».
**17.00.** «Гінес-шоу».
**17.30.** «Чарапашкі ніндзя».
**18.00.** Футбол. «Тарпеда» (Мінск) — «Фандок» (Бабруйск).
**18.50.** Дзелавы веснік.
**19.05.** Дыялог у прамым эфіры. На пытанні гледачоў адказвае доктар філасофскіх навук, прафесар І.І.Антановіч. Прамая лінія.
**20.00.** Панарама.
**20.35.** Пад купалам Сусвету.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Пяць хвілін на жарты.
**21.10.** «Аіда». Мастацкі фільм (Італія, Англія, Іспанія, Германія).
**23.00.** «Не забудзьцеся ўключыць тэлевізар».
**23.10.** Каралеўскае паляванне. Барыс Майсееў і яго лэдзі.

**Канал «Астанкіна»**

**6.45.** Ранішняя размінка.
**7.00.** Гадзіна сілы духу.
**8.00.** Арт-кур'ер.
**8.30.** Раным-рана.
**9.00.** Палігон.
**9.30.** Тыраж «Спортлато».
**9.45.** Пакуль усе дома.
**10.15.** Гэта невычэрпная крыніца Наваспаскага. Да 190-годдзя з дня нараджэння М.І.Глінкі.
**10.35.** Я — жанчына.
**11.05.** Новае пакаленне... Поспех.
**11.45.** Пад знакам «пі».
**12.30.** «Русскій міръ».
**13.00.** «Піф і Геркулес».
**13.10.** «Падводная адысея каманды Кусто».
**14.00,** 22.50. Навіны.
**14.20.** Дыялог у прамым эфіры.
**15.00.** Клуб падарожнікаў.
**15.45.** Шпаргалка.
**15.50.** «Кот Фелікс», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды».
**16.45.** Тэлелоцыя.
**16.55.** Футбол. Зборная Расіі — зборная Славакіі. У перапынках (17.45) — Навіны; (18.50) — Парад фестываляў. 47-ы Міжнародны кінафестываль у г.Кане (Францыя).
**19.40.** Рызыкнуць і перамагчы.
**21.00.** Нядзеля.
**21.45.** Спартыўны уік-энд.
**22.00.** Музыка ў эфіры.
**23.00.** Сёння. Рэлігійная праграма.

**Канал «Расія»**

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**7.25.** Цвер: былое і сучаснае.
**8.00.** Студыя «Рост».
**8.30.** Добрай раніцы, Еўропа.
**9.00.** Лепшыя гульні НБА.
**10.00.** Аты-баты...
**10.30.** Кіпрас Мажэйка. «Рэпартажы з Малой Еўропы».
**11.00.** «Ноч і туман». Дак. фільм.
**11.45.** Школа новых кадэтаў.
**12.10.** «Зоркі Амерыкі».
**12.40.** Шэсць сотак.
**13.20.** Не высечы...
**13.35.** Каробка перадач.
**13.55.** У свеце жывёл.
**14.50.** Чэмпіянат свету па аўтагонках «Формула-1».
**17.00.** «Гуфі і яго каманда», «Чорны плашч».
**18.00.** Свята кожны дзень.
**18.10.** «Фантазёры». Спектакль тэатра «Ліцадзеі».
**19.25.** «Мюрыэль». Мастацкі фільм.
**21.35.** Аўтаімгненне.
**21.40.** Зоркі гавораць.
**21.45.** У Ксюшы.
**22.40.** Валейбол. Сусветная ліга. Расія—Італія.
**23.40.** Музыка Санкт-Пецярбурга. Вольга Шалашова.

**Санкт-Пецярбург**

**7.30.** «Гаючае слова». Праграма-набажэнства.
**8.00.** «Анталогія зарубежнага кіно». «Жаночая тайна».
**9.40.** «Клод Ларэн». Дак. фільм з цыкла «Палітра».
**10.15.** Экспрэс-кіно.
**10.30.** Сам-насам з музыкай.
**11.00.** Нядзельны лабірынт.
**12.30.** «Гарыб у краіне джынаў». Мастацкі фільм для дзяцей.
**13.45.** Этнасы зямлі.
**14.15.** Гістарычны альманах.
**15.00.** Еўрапейскі калейдаскоп.
**15.30.** КААДП. «Прабег». Мультфільм.
**15.40.** Міжнародны фестываль «Музвясна-94».
**16.45.** Балет А.Адана «Жызель» у пастаноўцы Зялікага тэатра.
**18.30,** 23.10. Інформ ТБ.
**18.55.** Фестываль кінастудыі «Выбар». «У пошуках Санкт-Пецярбурга».
**19.25.** «Пецярбург, Расія...»
**19.55.** Без назвы.
**20.15.** Гэгстэры.
**20.25.** «Выпадковы вальс». Мастацкі фільм.
**22.00.** Ваш стыль.
**22.35.** Адамаў яблык.

# «... І ПАКУЛЬ МУЗЫКА ГУЧАЛА»




*Раней мы захапляліся зоркамі чужымі і не заўважалі чамусьці сваіх. А яны, тым не менш, стваралі карціны і музыку, вершы, спявалі і танчылі... Імі больш цікавіліся за мяжой. Але цяпер, калі Беларусь стала на шлях незалежнасці, паступова да нас пачало прыходзіць усведамленне: чым болей мы талентаў узгадуем, тым духоўна багацейшымі зробімся.*

*Ці многа ў нас зорак? Гэткай статыстыкі ніколі не вялося. Мы яшчэ не такія прагматычныя, як на Захадзе. Можа, з цягам часу і гэта зацікавіць спецыялістаў і журналістаў.*

*Не вельмі атакуюць «сваіх» аматары аўтографаў, не чакаюць у пад'ездах, не сочаць за кожным крокам. Нашы папулярныя артысты ходзяць, як і ўсе астатнія грамадзяне, па вуліцах, разам з усімі ездзяць у метро, трамваях і аўтобусах, наведваюць тыя ж самыя крамы. Яны жывуць як і ўсе. Яны такія ж, як і мы, і ў той жа час асаблівыя. Яны не «горшыя» і не меней здольныя, і гэта мы ўсе паспелі ўжо зразумець, чымся іхнія сабраты ў блізкім і далёкім замежжы.*

*Сённяшняя наша сустрэча з вядомым спеваком, які зрабіў бы гонар эстрадзе любой іншай краіны і які дваццаць гадоў аддаў сучаснай беларускай музыцы. Імя яго— Валерый ДАЙНЭКА.*

**— Валерый, раскажыце, калі ласка, як Вы прыйшлі ў музыку? Ці былі ў Вашай сям'і музыканты?**

— Так, мой тата працаваў дырэктарам 5-й мінскай музычнай школы. Зараз ён на пенсіі. Маці музыкай ніколі не займалася, аднак яна ў нас, можна сказаць, самая ёю апантаная, мае добры слых. Калі я вучыўся ў музычнай школе, кантралявала кожны мой крок. Слухаючы мае пасажы на скрыпцы, яна час ад часу папярэджвала: «Валера, ты фальшывіш». Так што «сачкаваць» мне, як кажуць, не дазвалялася. У той час мяне гэта вельмі раздражняла. Толькі потым я зразумеў, што маці мела рацыю.

Пасля заканчэння школы працягваў вучобу ў музычным вучылішчы. Наважыўся паступіць у кансерваторыю. Музычныя дысцыпліны здаў добра, а вось гісторыю заваліў — на экзамен завітаў тагачасны рэктар і пачаў задаваць пытанні, што называецца, на засыпку, не па праграме. Шчыра кажучы, у гісторыю КПСС я ніколі не паглыбляўся, бо нейкім другім пачуццём разумеў, што ў ёй шмат няпраўды, прыдуманасці. А вось літаратурай я захапляўся па-сапраўднаму, яна падавалася мне заўсёды жывой.

Вядома, расейскай мове і літаратуры ў час майго навучання ў школе аддавалася перавага. Добра ішла ў мяне беларуская, нядрэнна ангельская. Праўда, па-беларуску, як і многія мае равеснікі, я свабодна не размаўляў, таму што практыкі, на жаль, было мала.

**— Значную частку свайго творчага шляху Вы прайшлі разам з «Песнярамі». Праца ў гэтым славутым калектыве, вядома ж, не магла не адбіцца на Вашым жыцці і лёсе.**

— Пасля майго няўдалага паступлення ў кансерваторыю я пайшоў на трэці курс музычнага вучылішча. Адначасова працаваў у рэстарацыі «Каменная кветка». Там я пазнаёміўся з Уладзімірам Мулявіным, там ён мяне ўпершыню пачуў. Тады «Песняры» былі на ўзлёце, вядомым і папулярным калектывам. Я атрымаў запрашэнне ў ансамбль. Аднак у мяне тады былі свае планы, якія я спадзяваўся здзейсніць у новым калектыве «Равеснік», што таксама быў утвораны пры філармоніі. Трэба зазначыць, Мулявін нас, пачынаючых маладых музыкантаў, падтрымліваў, хоць мы ў нейкай ступені складалі канкурэнцыю «Песнярам».

Мы рабілі свае апрацоўкі беларускіх народных песень, стваралі свае праграмы. Аднак «Равеснік» пратрымаўся нядоўга. Філарманічнае кіраўніцтва чамусьці лічыла, што дастаткова для нашай культуры мець адных «Песняроў». Пасля я апынуўся ў ансамблі без назвы Валянціна Бадзьярава, у якім сабраліся маладыя музыканты. У нас тады іграў на бас-гітары Саша Ціхановіч. Ён яшчэ служыў у арміі і прыязджаў на рэпетыцыі ў салдацкай форме. Мы працавалі шмат і самаахвярна, нас многа разоў праслухоўвала кіраўніцтва. Нас мучылі ў літаральным сэнсе, «вучылі», як трэба іграць і спяваць, якую музыку выконваць. Такі быў час. Нічога не атрымалася і з гэтым калектывам. Скончылася тым, што я па запрашэнні былога свайго паплечніка Уладзіміра Карася апынуўся на... Украіне, у ансамблі «Чырвоная рута». Год прапрацаваў з Сафіяй Ратару. Пачаліся цікавыя гастролі: у Ленінград, Кіеў, Маскву. Разам з «Чырвонай рутай» — парадоксы лёсу — удзельнічаў у Днях культуры Украіны ў Мінску.

**— Не цяжка было асвойваць новую мову?**

— Асаблівых цяжкасцяў у мяне не ўзнікала. Па-першае, украінская мова падобная на беларускую, па-другое, музыка —інтэрнацыянальнае мастацтва, як і жывапіс, і літаратура, і кіно, і мода... Хто яе носьбіт — гэта не важна. Музыка ўспрымаецца ўсімі народамі аднолькава, на эмацыйным узроўні. А потым, у нас ёсць нямала выканаўцаў, якія родам не з Беларусі, але якія добра спяваюць па-беларуску. Напрыклад, Ігар Пеня з «Песняроў» — рускі, ды і сам кіраўнік ансамбля Уладзімір Мулявін ураджэнец Расіі, Алена Саўленайтэ — літоўка, працягваць можна і далей.

Аднойчы з Днепрапятроўска патэлефанаваў свайму сябру ў Мінск. На той момант у яго знаходзіўся ў гасцях Мулявін, які ўзяў трубку і прамовіў мне: «Валера, ці не надакучыла табе бадзяцца па інтэрнатах, вяртайся ты ўжо дамоў». Гэта было трэцяе запрашэнне ў «Песняры».

**— Але чаму так доўга вашы шляхі не сыходзіліся?**

— Напэўна таму, што я дзесьці ў душы не быў яшчэ гатовы. Я думаў тады, што «Песняры» — гэта не маё. Шчыра кажучы, калі я чуў іх у запісе, яны мяне глыбока не краналі. Але калі я патрапіў на жывы канцэрт, я быў моцна ўражаны. І чым далей ішоў час, тым болей я ўпэўніваўся, што гэта адзіны калектыў, дзе я здолею раскрыць сябе як творца.

**— І Вы вярнуліся дамоў.**

— Так. Пачаўся новы творчы перыяд у маім жыцці. То была вельмі цікавая работа, напоўненая шматлікімі паездкамі па Саюзе. Мы працавалі ў кожным горадзе не менш дзесяці дзён, давалі па два канцэрты пры аншлагах. Пры ўсім тым у нас хапала часу на рэпетыцыі, стварэнне новых праграм. Мы лічылі, што зарабляем вялікія грошы. Сапраўды, на той час мы былі адным з найбольш высокааплатных калектываў. Аднак ільвіная доля заробкаў ішла дзяржаве. А ў той жа перыяд маскоўскія зоркі — Ала Пугачова, Бары Алібасаў і іншыя пачалі працаваць не толькі на дзяржаву, але і на сябе. Гэтыя людзі ў тыя часы рызыкнулі ўкласці сродкі ў развіццё сваёй справы.

**— Чым Вы можаце растлумачыць поспех і доўгае жыццё на сцэне славутых «Песняроў»?**

— Больш папулярнага і лепшага калектыву не было за ўсю гісторыю Савецкага Саюза. З «Песнярамі» могуць спаборнічаць толькі Магамаеў і Пугачова. Лічу, роўных ім няма. «Песняры» — вельмі самабытныя, іх творчасць — сінтэз народнай культуры і сучаснай аранжыроўкі пры зліцці музычных інтанацый розных народаў.

Я таксама нямала працаваў у гэтым рэчышчы, імкнуўся спалучыць беларускую музыку, якая ўва мне жыве, з музыкай, на якой я выхоўваўся з дзяцінства, потым вывучаў яе, — джазавай, папулярнай ангельскай, амерыканскай, негрыцянскай.

Атрымлівалася нешта цудоўнае, непаўторнае. Вакальным аранжыроўкам народных песень мне хацелася надаць сучаснае гучанне. Тэма ніколі не змянялася, заставалася народнай. Мне казалі: дзіўна, але ж і на беларускай мове блюз гучыць не горш, чым на ангельскай! Працу ў гэтым напрамку, безумоўна, трэба развіваць і далей. Яна прынясе яшчэ шмат цікавых адкрыццяў, узбагаціць нашу сучасную музыку.

**— Колькі гадоў было аддадзена «Песнярам»?**

— Дзесьці семнаццаць гадоў. Самыя лепшыя, самыя шчаслівыя, самыя плённыя гады, якія былі насычаныя працай, гастролямі па краіне і за мяжой. Паездкі таксама ўзбагачалі, уплывалі на творчасць. Як ні дзіўна, чым далей мы ад'язджалі ад СССР, тым лепей нас прымалі. Паспяховымі былі гастролі па ЗША, краіне, якая з'яўляецца заканадаўцай усіх папулярных напрамкаў і стыляў. Мы там пабывалі чатыры разы.



**— Вы ўвайшлі ў паласу творчай сталасці. У чым і як Вам хацелася б зараз сябе выказаць?**

— Зараз спрабую сябе ў тым, з чаго пачынаў, чым заўсёды захапляўся, — у джазе — сучасным, рокавым, так званым камерцыйным...

**— З гэтым, напэўна, звязаны Ваш пераход у Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга?**

— Безумоўна. Там працуюць цудоўныя артысты, якія іграюць самую розную музыку — ад сімфанічнай да сучаснага джаза. У мяне шырокае поле дзейнасці — я спяваю песні і нашых беларускіх кампазітараў, і класічныя, і сучасныя джазавыя творы. Мне тут цікава.

**— Апошнім часам беларуская сучасная музыка зрабіла рывок наперад. На Ваш погляд, ці здолее яна ў бліжэйшы час выйсці на еўрапейскі ўзровень?**

— Стан культуры ў вялікай ступені залежыць ад стану эканомікі. На жаль, інфляцыя і іншыя крызісныя моманты вымушаюць многіх здольных музыкантаў займацца бізнесам, чым заўгодна, але не галоўнай іх справай. Шмат талентаў пакідае радзіму ў пошуках больш-менш трывалага матэрыяльнага становішча. Шоў-бізнес патрабуе ўкладання вялікіх капіталаў, якіх ні ў кога з людзей мастацтва няма. Трэба шукаць спонсараў, якія б любілі музыку, мастацтва і падтрымлівалі артыстаў. Бо музыкант, спявак, кампазітар будзе толькі тады па-сапраўднаму разняволены, калі не мусіцьме думаць пра тое, як ён пражыве заўтра, а зоймецца творчасцю, усяго сябе ёй аддаючы. Калі ён мае неабходнае для ажыццяўлення сваіх задумаў і ідэй. Я, напрыклад, мару пра студыю гуказапісу. Я б сядзеў у ёй, напэўна, і дзень, і ноч...

**— Валерый, хто Ваш любімы спявак?**

— Іх у мяне многа. Мне вельмі падабаецца музыкант, дарэчы, мы з ім амаль што равеснікі, — Стыві Вандэр. Ён калісьці быў маім кумірам. Падабаюцца Рэй Чарльз, Нат Кінг Кол, Майкл Макдональд, Род Сцюарт, Сцінг. Мог бы назваць цэлы шэраг імёнаў. Гэта людзі, якіх я люблю, штосьці чэрпаю ў іхняй творчасці як вакаліст.

**— Музыканты, вядома, людзі эмацыйныя, усё прымаюць блізка да сэрца. Як Вы, напрыклад, змагаецеся з кепскім настроем, стрэсамі?**

— Непрыемнасці я ўспрымаю, як і ўсе, — пакутую, перажываю. Выратоўвае ў складаныя хвіліны, пэўна, мая незлапамятнасць. Праз непрацяглы час я забываюся на крыўду і дарую.

**— Дарэчы, хто Вы па гараскопу?**

— Па Задыяку — Стралец, а па ўсходняму гараскопу — Кот. Напор Стральца ўраўнаважваецца кашэчай мяккасцю.

**— Якая краіна і які горад найбольш запомніліся падчас Вашых вандровак?**

— Самае моцнае ўражанне засталося ад Нью-Ёрка. Каласальны горад Мехіка. Вельмі прыгожая Лацінская Амерыка. Увогуле, усе краіны цікавыя па-свойму. Аднак Нью-Ёрк для мяне неяк асабліва блізкі. Таму што ў ім я меў магчымасць наведаць любы канцэрт, убачыць сваіх самых любімых, выдатных выканаўцаў, бо амаль усе яны там жывуць. У гэтым горадзе незлічоная колькасць канцэртных пляцовак, сотні музейных цэнтраў, тысячы артыстаў выступаюць на вуліцах. Там кожны дзень, кожную гадзіну нешта цікавае адбываецца. Увечары ты бярэш газету і глядзіш: у гэтай кавярні працуе Лэры Карлтон, там Елоў Джэкетс, побач выступае нейкая поп-джаз-зорка. Выбірай, што хочаш.

**— Апроч музыкі, чым яшчэ захапляецца Валерый Дайнэка: спортам, палітыкай?**

— Калісьці займаўся спортам. Раблю дома гімнастыку — трэба ж форму трымаць. Палітыка мяне не вабіць. Раней яна мяне прыцягвала, аднак калі ўбачыў, што па сутнасці нічога не мяняецца альбо ідзе надта марудна, перастаў ёю цікавіцца.

Я нядрэнна маляваў, пісаў вершы і спадзяваўся, што тое або гэтае стане маёй прафесіяй. Аднак выйшла інакш — мае любоў, праца і хобі — музыка. Ёсць у мяне, праўда, яшчэ адно захапленне — рыбалка, яго я падзяляю з татам. Яшчэ маю сімпатыю ды жывёлаў, мяне прыцягваюць грацыёзныя і загадкавыя кошкі. Іх у мяне нават дзве — адна жыве ў Мінску, а другая разам з жонкаю і дзвюма дачушкамі — у Маскве.

**— Над чым Вы працуеце зараз?**

— Рыхтуюся разам з іншымі салістамі і музыкантамі Дзяржаркестра да другога Нацыянальнага фестывалю сучаснай беларускай песні і паэзіі, які адбудзецца ў наступным месяцы ў Маладзечне. На ім я выканаю новыя творы беларускіх кампазітараў, джазавыя кампазіцыі. Я таксама буду працаваць у журы. Мой дзень напоўнены з раніцы і да вечара рэпетыцыямі, канцэртамі, сустрэчамі, музыкай...

**Размову вяла Наталля КІРПІЧЭНКАВА.**

**Фота Г.ЖЫНКОВА.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі: 220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

